


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 14 (2969) Год LVIII | Беласток, 7 красавіка 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Пад бел-чырвона-белымі сцягамі

**Вучні гайнаўскіх і бельскіх белліцэяў і белгімназій яшчэ да святкавання Дня Незалежнасці на ўроках беларускай мовы даведваюцца пра падзеі, якія папярэдзілі абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе і пра яе лёс. Школьныя святкаванні праходзяць у нас па-рознаму. Апошнім часам, пад уздзеяннем беларускамоўных сродкаў масавай інфармацыі, штораз больш настаўнікаў беларускай мовы на Гайнаўшчыне і Бельшчыне таксама стараюцца са сваімі вучнямі адзначыць Дзень Волі, хаця б толькі на ўроках беларускай мовы. Тады ёсць нагода пагаварыць пра беларускую дзяржаўнасць, ці пра беларусаў Беласточчыны, якія змагаліся за вольную Беларусь.**

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

У гэтым годзе святкаванне Акту 25 Сакавіка праходзіла ў школах у панядзелак 25 сакавіка. Я ў гэты дзень наведаў Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы і Агульнаадкацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім.

## У Гайнаўцы

У Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, яшчэ да святкавання 95-х угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, на калідоры паявілася насценгазета на тэму падзей 1918 года на беларускіх землях, праілюстраваная беларускімі нацыянальнымі сімваламі. Штодзень бел-чырвона-белы сцяг лунае ў школьным будынку над уваходам у актавую залу, а герб „Пагоня" пастаянна вісіць у зале. Вучні, якія школьныя святкаванні падрыхтавалі пад кірункам настаўніц беларускай мовы Іаланты Грыгарук і Анны Каліноўскай ды настаўніцы музыкі Бажэны Ляўчук, прыдбалі дадатковыя выявы „Пагоні" і бел-чырвона-белыя сцягі і ўпргожылі імі актавую залу. Патрыятычны характар мерапрыемства ўзмоцніў выслуханы на зважай беларускі гістарычны гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Святкаванне ў Гайнаўцы распачалося з лінейкі белгімназістаў, у час якой вучні I „б" класа дэкламавалі патрыятычныя вершы Максіма Багдановіча, Наталлі Арсенневай і Ларысы Геніюш, распавядалі пра абвяшчэнне БНР. Сабраным спадабаўся фільм „Дзень Волі" Уладзіміра Арлова, з якога вучні даведаліся пра падзеі 1918 і 1990-х гадоў, калі незалежная Беларусь вярнула сабе гістарычную сімволіку. Сумна было вучням глядзець як нацыянальныя сімвалы здымалі з дзяржаўных будынкаў у Беларусі, калі да ўлады дайшоў Аляксандр Лукашэнка.

— Сённяшняе святкаванне *файнае*, бо сваё. Нам таксама залежыць, каб Беларусь была вольнай і незалежнай дзяржавай, — сказала белгімназістка Караліна Грыцюк.

Патрыятычны слоўна-музычны мантаж, як цікавую формулу святкавання, пахвалілі белгімназісты Юстына Кэндысь і Матэвуш Грыгаровіч.

— Вашыя сённяшнія цудоўныя выступы выклікалі ўвамне незабыўныя ўражанні, а з фільма вы даведаліся аб гісторыі Беларусі, — заявіў пасля выступу белліцэістаў дырэктар школы Яўген Сачко, які звярнуўся да іх з заклікам: — Цяпер наш абавязак — паказваць моладзі з Беларусі дарогу ў Еўропу. У нас ёсць магчымасці часта атрымліваць візы, наведваць вучняў у Беларусі і я заахвочваю вас да гэтага. Хутка будзе ладзіцца веласіпедная паездка ў Камянец. Прапаную вам прыняць у ёй удзел.



У Гайнаўцы



У Бельску-Падляшскім

— Мы хочам паказаць нашым вучням, што Беларусь заўсёды была ў Еўропе, а ў саставе Расіі была толькі часова, з падзелу Рэчы Паспалітай і ў 1918 годзе стала незалежнай краінай, — сказала настаўніца Іаланта Грыгарук.

— Ліцэісты павінны ведаць нашую гісторыю. Добра вучыцца ёй у такой патрыятычнай атмасферы, якая ёсць у нас сёння, — заявіла пасля выступу белгімназістаў намеснік дырэктара школы Ніна Лукасік.

Перад белліцэістамі з патрыятычнымі вершамі выступілі вучні II „б" і II „д" класаў. Старэйшым вучням таксама спадабаўся фільм „Дзень Волі".

— Мы на ўроках гаварылі пра абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі. Цяпер засярodзіліся на патрыятычным мантажы, — заявіла настаўніца Анна Каліноўская.

Белліцэісткі Дамініка Юшкевіч, Адрыянна Прусіноўская і Марлена Бяглюк сказалі, што патрыятычныя вершы і песні выклікалі ў іх узнёслы настрой. Спецыяльную патрыятычную праграму на святкаванне Дня Волі падрыхтаваў школьны музычны калектыў „Знічка" пад наглядам настаўніцы Бажэны Ляўчук, які выступіў спачатку перад белгімназістамі, а пасля перад белліцэістамі. Асаблівае ўражанне выклікаў у іх выкананні твор „Магутны Божа", падрыхтаваны на харавы распеў. У ролі дырыжора вельмі добра справіўся белліцэіст Каміль Васілюк, выпускнік Школы псаломшчыкаў у Гайнаўцы, а пасля на акардэоне яго сябра Рыгор Дружба ўдала саставіў акампанемент да іншага твора ў выкананні „Знічкі".

## У Бельску-Падляшскім

У Бельскім белліцэі ад раніцы лунаці бел-чырвона-белыя сцягі. У школьным будынку красаваліся плакаты з нацыянальнымі сімваламі з нагоды Дня Незалежнасці. Ад першых урокаў вучні другіх класаў на сталах у вялікім калідоры расстаўлялі разнароднае харчаванне, якое найчасцей рыхтавалі з дапамогай сваіх мам і бабуль. Рыхтаваліся яны да конкурсу на найсмачнейшую і найпрыгажэйшую страву. Харчаванне размясцілі побач ікон і ўпрыгожылі нацыянальнымі сімваламі.

— Мы рады, што занялі першае месца ў конкурсе беларускіх нацыянальных страў. Дапамагалі нам рыхтаваць стравы нашы мамы і бабулі. Мы стараліся паставіць на стол разнароднае харчаванне — каравай з надпісам 25 Сакавіка, наш чорны хлеб, варэнікі з капустай, кампот з яблык і груш, хлебны квас, *халадзільнік*, ці салат з селядцамі, — расказвала Юстына Вайшковіч з II „б" класа. — Я апранулася ва ўбор беларускага калектыву „Маланка", а мая сяброўка Эвеліна Дзікоўская выступае ў беларускай вопратцы, якую пазычыла ў суседняй школе № 3. Мы хацелі, каб не толькі запрапанаваць нашае беларускае харчаванне, але каб у час святкавання Дня Незалежнасці паказаць нашыя сімвалы і на-

працяг ☞11





# Два дзесяткі гадоў

Хіба што нам, беларусам, было вельмі патрэбна пражыць апошнія два дзесяткі гадоў у тых варунках, у якіх мы існавалі, каб мы па-сапраўднаму задумаліся пра тое, што такое насамрэч ёсць шлях да Беларусі. І не толькі каб задумаліся, але яшчэ каб нешта зразумелі ды зрабілі высновы з пражытага.

Для патрыёта беларускасці не цяжка насіць беларускую ідэю ў сэрцы. Яна там папросту жыве незалежна ад жадання гаспадара. І нічым яе адтуль не выкурыш. Яна заваподвае пачуццямі, прымушае шукаць і ў сённяшнім дні, і ў гісторыі мінулага людзей да сябе падобных, асвячае думкі мроямі беларускай будучыні. З гэтым пачуццём усё зразумела. Яно існавала ў носьбітаў беларушчыны заўсёды, жыло ў людскіх душах вякамі, даказваючы тым самым, што ёсць такая нацыя.

Іншая справа збудаваць беларускую дзяржаву. А вось каб стварыць сваю дзяржаву мала проста любіць сваё. Тут трэба нешта большае. Патрэбна разуменне навошта нам свая дзяржава, хто сябры гэтай ідэі, а хто супраціўнікі, і чаму сталася так, а не наадварот, і як можа стацца ў будучым. А найперш неабходна зразумець, хто мы самі такія.

Два дзесяткі гадоў таму мы думалі, што дастаткова адарвацца ад акупантаў, і мы, нацыя з еўрапейскім менталітэтам і з гэткай жа гістарычнай памяццю, адразу пачнём будаваць беларускую Беларусь, у якой прыярытэтамі будуць нацыянальныя і еўрапейскія каштоўнасці. Ды вось гэтыя два дзесяткі паказалі, што не ўсё так проста. Не чужакі сёння здзіраюць бел-чырвона-белыя сцягі і герб „Пагоню", а грамадзяне Беларусі, якія зусім нядаўна насілі гэтыя сімвалы на сваіх мундзірах. Не акупацыйная ўлада ледзьве не ў ста адсотках выпадкаў адмовіла патрыётам у праве годна і свабодна адзначыць Дзень Волі ў юбілейны год, а беларуская ўлада гэта зрабіла. Тая ўлада, якая стала ўладай выключна з-за таго, што гэтыя патрыёты ў свой час дамагліся прыняцця Дэкларацыі пра суверэнітэт, дамагліся гэтай волі. Не вызнаныя замежныя суды зараз караюць за не там сказаныя ці напісаныя лозунгі „Жыве Беларусь", а менавіта суды Рэспублікі Беларусь.

Нейкі абсурд атрымліваецца. Але гэты абсурд даў нам магчымасць зразумець, што справа не ў акупантах. Ці калі сказаць больш дакладна, нашыя беларускія праблемы не толькі ў акупантах. І каб гэта зразумець, нам спатрэбілася ажно два дзесяткі гадоў. І сёння мы ведаем ужо, што ў вонкавых супраціўнікаў незалежнасці і вольнасці Беларусі не так ужо шмат магчымасцей, як нам здавалася некалі. Яны нават не могуць справіцца са сваімі ж марыянетачнымі рэжымамі, якія самі паставарылі на постсавецкай прасторы. Мала таго, яны вымушаны плаціць гэтым рэжымам своеасаблівую даніну толькі за тое, каб тыя не вельмі моцна агрызаліся і хоць знешне паказвалі сваё васальства.

Але калі з вонкавымі ворагамі беларускасці і іх негатыўнай роляй і абмежаванымі магчымасцямі зараз усё больш-менш стала зразумелым, то да разумення ролі сяброў пабудовы нашай дзяржавы, да разумення рэальных магчымасцей вонкавых прыхільнікаў нашай незалежнасці ў беларускай эліты, ды не толькі ў яе, яшчэ і не пачало высьпяваць хоць нейкае лагічнае разуменне. Адсюль і нічым не абгрунтаваныя спадзяванні беларускіх незалежнікаў у магію слоў Астапа Бэндэра „заграніца нам паможа".

Яна, „заграніца", можа і памагла б, каб магла. Можа і стараецца ў меру сваіх магчымасцей, толькі вось тых магчымасцей, як аказваецца — кот наплакаў. Іх, тых магчымасцей дапамагчы ў пабудове нашай дзяржавы ў прыхільнікаў, прыкладна, столькі ж, колькі сіл у супраціўнікаў, каб не дапусціць гэтага. Вонкавыя прыхільнікі нашай незалежнасці і яе супраціўнікі папросту нейтралізуюць адзін другога, і не больш таго. А часамі яны супрацьстаяць адзін другому зусім пра нас забываючыся. І могуць намі яшчэ і гандлянуць, пры патрэбе.

А мы ў сваю чаргу забываемся, што ніхто нам аж так істотна не дапаможа, як толькі мы самі. І як мы гэтую ісціну цвёрда ўцямім, то тады наш Дзень Волі, як і сама Незалежнасць, стануць рэальнасцю. Толькі б не згубіць на гэтае разуменне чарговыя два дзесяткі гадоў.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Рэальнась пакарабачаная

Гэта пачалося з «ялавічыны», і ледзь не кончылася рэвалюцыяй. На шчасце да ўсіх рэвалюцый маю адносіны агідныя. Да ялавічыны, якая прытвараецца ялавічынай, дарэчы, таксама. Я купіў яе ў адной з нарваўскіх крам на татарскі біфштэкс. Убітая ў яе кавалак бірка заяўляла, што гэта ялавічына. Толькі што яна мела стольскі да ялавічыны, як соль да лася. Я надпісу паверыў. Толькі дома, у выніку судовамедыцынскай экспертызы высветлілася, што прадукт быў свінападобны, або ялавічынасвінападобны. Я проста страціў веру ў друкаванае слова. Я не чытаю ўжо бірак ані этыкетак. Што яшчэ горш, не чытаю ўжо выказванняў палітыкаў. Мая пазіцыя, аднак, не аказвае істотнага ўплыву на агульны ўзровень чытацкай аўдыторыі. Гэта ясна відаць у крамах. Кліенты займаюцца пільным чытаннем этыкетак. Колькі мукі ў хлебе, колькі масла ў масле? Колькі «Е», а колькі «срэ»? Ці ў кагосьці здзіўляе румянец на іхніх шчоках ад хвалявання? Вядома, яны ж заадно чытачы захапляльнага дэтэктыва, як і яркія персанажы яго сенсацыйнай фабулы. Не здзіўляйцеся, калі аўтары этыкеткі замарожанай тушанай фасолі будуць удастоены Нобелеўскай літаратурнай прэміі. У сваю чаргу кліент, які будзе яе есці — мерцвяком, які не дачытаў гэтую этыкетку. Такога яшчэ не было, хоць быццам бы ўжо было! Непатрэбна нарваўская бібліятэкаркі скардзяцца, што меншае ў іх лік чытачоў. Гэта якраз наадварот. Яны толькі што перавяліся ў крамы. Мабыць, кнігу ўжо пара замяніць цэтлікамі? І замяніць бібліятэку ў краму?

Я не прыхільнік працяглых раманаў. Асабліва ў краме. Для ялавічынападобнай свініны было б дастаткова, каб паставіць цэтлік у пытальнай форме. Вось такі: «Ялавічына?». Я ўжо ведаў бы, што нешта з ёй і ёсць. Сапраўды гэтак жа можна з іншымі прадуктамі. «Хлеб?». Вядома, пілавінне. «Каўбаса?». Што такое каўбаса? Адны ж сухажыллі і раслінныя напаўняльнікі. Пытальны характар ставіў бы справу справядліва. Кліент сам павінен адказаць, што ёсць што. І сам перад сабой быў бы адказным за свой выбар. Спачатку ідэя здавалася мне ідэальнай. Такая сувязь заснаваная на надзейнае слова значна палепшыла б узровень грамадзянскага задавальнення. Прадумаўшы пытанне, я палічыў яго занадта рэвалюцыйным. Яго рэвалюцыйнасць паказвае свой цёмны бок, калі яно распасціраецца на грамадскія сувязі. Калі ласка: Дзяржава? Сейм? Палітыкі? Пытальнік для кожнага з гэтых паняццяў адкрывае шырокі спектр адказаў. Але ён таксама цягне за сабою сур'ёзныя наступствы. Калі Дзяржава для кагосьці гэта звычайны бардэль, я прашу прабачэння, але гэта абазначае, што ён пагаджаецца на жыццё ў бардэлі. Калі парламент разглядаць як публічны туалет, то мне вельмі шкада, але мы павінны паддацца заканадаўчай уладзе клазетнай цёткі. Калі палітыкі з'яўляюцца ашуканцамі, дык хто іх выбірае?

Асабіста я не згодны на жыццё ў бардэлі або на хворыя задумы клазетнай цёткі, хай і са званнем прафесара. Я не лічу ўсіх палітыкаў адарванымі ад рэальнасці ідыётамі. Ні ўлады — падлай для партыйных сцярвятнікаў. Я проста пытаюся. Ці дух Дзяржавы ва ўсіх пагас? Чаму Сейм не займаецца неабходнымі рэформамі? Адказваю на гэтыя пытанні, колькі розуму мне стае. Толькі што розум гэта адно, а рэальнасць зусім іншае. Бо калі я прачытаю, што нешта белае, а на самой справе гэта чорнае, дык на нішто гады цяжкай працы ў школах, на нішто мае веды. Губляюся ў двухсэнсоўнасцях. Так немагчыма жыць. Я мяркую, што кожнаму муляе гэтае раздваенне асобы. Гэта выяўляецца ў нарваўскай краме, у адміністрацыі, у судовай сістэме, паліцыі і службе аховы здароўя. Выяўляецца ў самой Дзяржаве, якой ідэі прысабечваюць кіруючыя партыі. Прыгадаю, што тры найбуйнейшыя з іх маюць разам ледзь крыху больш за сто тысяч сапраўдных членаў. Дык няхай меншасць больш не калупаецца ў асновах Дзяржавы, як дзікая свіння ў бульбяннішчы. Яна належыць усім 38 мільёнам грамадзян. Хай апазіцыйныя партыі, па прыродзе рэчаў назначаны для прынцыповай крытыкі ўлады і ажыццяўлення беспярыннага кантролю над ёю, паводзяць сябе не так, як гнільныя бактэрыі, крывадушна лямантуючы над раскладам Дзяржавы. Няхай, нарэшце, улады вызначаць сваё стаўленне да такіх паняццяў, як «справядлівасць» або «ісціна». Таму што полюсы іх значэнняў усё змяняюцца ў адпаведнасці з ідэалагічным рэлятывізмам. Не пагаджаюся на гэта, я не жадаю гэтай двухмовы. Я не згодны на тое, каб каўбаса пыталася ў мяне ў краме, ці яна — каўбаса. Я не згодны, каб хтосьці сілай упіхваў мне заменныя прадукты! Хлеб з пілавіння. Каўбасу з плеваж. Уладу з пардэнасці. Дзяржаву з ганьбы. Цьфу! Гаўняная рэвалюцыя!

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Уваход у глыбокі лес



Нядаўна падляшскі ваявода Мацей Жыўна інаўгураваў сацыяльна-медыйную кампанію ў карысць талерантнасці і павагі да правоў нацыянальных, этнічных і рэлігійных меншасцей. У яе рамках у пачатку былі падведзены вынікі абвешчанага сярод падляшскіх вучняў конкурсу на лагатып і лозунг кампаніі; дзеці і моладзь з'яўляюцца яе так званай мэтавай групай. Кампанія ажыццяўляецца ў супрацоўніцтве з Групай па павышэнню бяспекі нацыянальных, этнічных і рэлігійных меншасцей (у тым ліку і прадстаўнікоў беларускай меншасці). Яна была створана восенню 2011 года, пасля шэрагу нацысцкіх і ксенафабічных інцыдэнтаў, якія мелі месца ў Падляшскім ваяводстве. Паводле інфармацыі бюро ваяводы, інструменты, якія будуць выкарыстоўвацца ў кампаніі, уключаюць у сябе: мерапрыемствы, радыё- і тэлеперадачы, публікацыі, прэс-канферэнцыі. Важным элементам маюць быць таксама адукацыйныя дзеянні ў выглядзе прыцягальных мерапрыемстваў, якія будуць праводзіцца ў школах ваяводства. Прыкладам можа служыць Пачатковая школа № 12 у Беластоку, якая ўжо ў канцы красавіка арганізуе Фестываль культур. Як абвясціў ваявода, свае прапановы заяўляюць іншыя меншасці. Бліжэйшая з запланаваных падзей — «Сабантуй. Фестываль смакаў Адзінага Бога. Малітва за мір і справядлівасць у свецe». Рыхтуюць яе мусульмане-татары ў Крушынянах 18 траўня.

У кампанію ўключыўся Падляшскі музей, які прапануе адукацыйныя сшыткі для дзяцей. Першы ўжо гатовы — «Гермес у Музеі ікон. Сакрэты праваслаўя». У падрыхтоўцы — беларускі сшытак, у планах татарскі і яўрэйскі. Музей не выключае магчымасці правядзення на іх аснове ў некалькіх абраных школах майстар-класаў. Дырэктар Падляшскага музея Анджэй Ляхоўскі ў гутарцы са мной сказаў:

— Наш Музей разнастайнасцю, культурнай іншасцю займаецца кожны дзень. Хопіць пералічыць нашыя філіялы, значыць, музеі ў Тыкоціне і Супраслі, ці калекцыю татарыянаў. Цяпер толькі пытанне аб тым, як перавесці гэтую традыцыю да сучаснасці, на адукацыю. Сшыткамі хочам зацікавіць дзяцей, бацькоў і настаўнікаў пачатковых школ і гімназій. Тлумачыць яны асноўныя паняцці, у тым ліку адкуль узяліся ў нас меншасці, і чым яны адрозніваюцца ад іншых. Тлумачым у іх і рэлігію, і культуру, і звычаі ў даступнай і часта гульнявой форме. Рыхтуюць іх нашы супрацоўнікі музея ў кансультацыі з настаўнікамі.

Мацей Тэфэльскі, упаўнаважаны Падляшскага ваяводы па справах меншасцей, прадбачае:

— Другім мерапрыемствам кампаніі мае быць сацыяльна-культурнае мерапрыемства, якое будзе адбывацца адзін раз у год у Беластоку. У яго рамках усе меншасці будуць мець магчымасць паказаць свае дасягненні. Залежыць нам на ўвядзенні прадстаўнікоў меншасцей у школы, якія набліжалі б іх грамадска-культурную праблематыку.

Падчас цырымоніі ўзнагароджання маладых пераможцаў конкурсу на лагатып і лозунг кампаніі Яраслаў Малэцкі з Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі (гэтае ведамства апякуе арганізацыі нацыянальных меншасцей) заявіў:

— Талерантнасць у адносінах да розных нацыянальнасцей і культур з'яўляецца асновай шчасця жыцця ўсіх.

Ваявода Жыўна ў пераносным сэнсе адзначыў:

— Чым больш разнастайны лес, тым больш нас цікавіць, каб глыбока ў яго ўвайсці. У разнастайнасці — адзінства і прыгажосць.

Цяжка з гэтымі сцвярджэннямі не быць згодным, але якія наступствы прынясе кампанія ваяводы, прыйдзецца пачакаць. Як доўга? І гэта залежыць не толькі ад грошай, якія будуць прызначаны на гэтую кампанію.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Варшаўскі Дзень Волі

**«Жыве Беларусь», «Mińsk — Warszawa wspólna sprawa», «Разам можам болей»** — скандавалі ў польскай сталіцы падчас маршу (23 сакавіка) з нагоды Дня Волі. Больш чым некалькі дзесяткаў удзельнікаў прайшло ад помніка Вінцэнту Вітасу праз плошчу Трох Крыжоў, вуліцу Новы Свят і Кракаўскае прадмесце (паўз прэзідэнцкі палац) на Замкавы пляц. Побач многіх бел-чырвонабелых сцягоў луналі бел-чырвоныя і еўрасаюзныя. На банэрах віднелі надпісы на польскай мове: **«За вашу і нашу свабоду»**, а паанглійску: **«Разам для Беларусі»**.


Пад помнікам Вітасу


Шэсце па вуліцах Варшавы


Зянон Пазьняк і Наталля Радзіна ля помніка

Мінакі спыняліся і з цікавасцю пыталіся пра мэты дэманстрацы. Адна пажылая пара з Варшавы яшчэ пад помнікам Вінцэнту Вітасу сцвердзіла:

— Змагайцеся і даможацеся поспеху. Паглядзіце, вось нам удалося, але гэта было нялёгка.

Сярод дэманстрантаў былі імігранты, якія пакінулі Беларусь, баючыся рэпрэсій з боку рэжыму Аляксандра Лукашэнкі за сваю дзейнасць Святкавацъ прыйшло шмат маладых беларусаў, якія вучацца ва ўніверсітэтах Варшавы. Вітальд, студэнт, з бел-чырвона-белым сцягам, пераконваў польскіх журналістаў:

— Калі б 95 гадоў таму не было Беларускай Народнай Рэспублікі, не было б сёння Рэспублікі Беларусь. Гэта дзень, калі было абвешчана, што мы — нацыя, якая мае права на сваю дзяржаву, на незалежнасць. Гэтае свята з'яўляецца выразам нашай падзякі за тых, што мелі мужнасць, каб здабыць незалежнасць.

Зміцер Бародка, дырэктар Беларускага дома ў Варшаве (Дом быў суарганізатарам варшаўскіх мерапрыемстваў) ужо трэці раз будзе адзначаць Дзень Волі ў Польшчы. Ён з'ехаў з Беларусі па палітычных прычынах, на хвалі рэпрэсій пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года за дзей-



насць арганізацыі «Еўрапейская Беларусь», якая была заснавана таксама пераследаваным кандыдатам у прэзідэнты на апошніх выбарах, цяперашнім эмігрантам Андрэем Саннікавым. Перад выхадам дэманстрацыі сказаў ён:

— Нашы продкі 95 гадоў таму заклалі першы камень у падмурак існавання нашай дзяржавы і гэтую справу мы павінны завяршыць, аднавіць наш беларускі дом. Калі б мы не верылі ў будучыню Беларусі, не збіраліся б тут. Немагчыма прадказаць, якой яна будзе, але ў будучыню Беларусі трэба верыць. На жаль, усё больш і больш беларусаў вымушаны пакінуць Беларусь, таму што не бачаць там будучыні, губляюць надзею. Тым не менш, я веру, што большасць з іх вернецца, каб збудаваць новую Беларусь. Сёння, аднак, было б рызыкоўна, таму што так, як я і мае калегі, трапілі б у турму.

Мы спыталі Зміцера Бародку, ці бягучая дапамога ад Еўрапейскага саюза дэмакратычным сілам у Беларусі з'яўляецца дастатковай:

— Дапамогі ніколі не бывае зашмат. Мы ўдзячныя за гэта, але яна павінна ісці на карысць. Вялікая яе частка расходуецца на незразумелыя для нас мэты і яна непразрыстая. Прыклад? Дапамога ідзе на мадэрнізацыю сельскай гаспадаркі ў Беларусі, у рамках еўрапейскай дэмакратычнай дапамогі. Ёсць шмат гутарак аб аднаўленні дыялогу з рэжымам. Я думаю, што гэта будзе толькі абнаўленне гэтага канцэнтрацыйнага лагера. Лукашэнка змадэрнізуе свае прадпрыемствы і свой рэпрэсіўны апарат, і нічога не зменіцца. З Лукашэнкам мусім гаварыць з пазіцыі сілы і толькі з жорсткага становішча.

Спецыяльным госцем варшаўскага свята быў таксама вядомы эмігрант Зянон Пазьняк, легендарны старшыня Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ. Пад калонай Жыгімонта ён сказаў:

— Гэты дзень, 25 сакавіка, стаў сакральным для нашага народа. Аб'ядноўвае ўсіх, незалежна ад палітычных рознагалоссяў і любых іншых (...). Калі б не было акта 25 Сакавіка, калі б не было гэтых людзей, якія зрабілі такую ахвяру, то мы не стаялі б тут з гэтымі сцягамі і ўвогуле гэтых сцягоў не было б. Мы павінны гэтым людзям гаварыць: «Слава героям!». Самым важным тады з'яўлялася нацыянальная ідэя, якая мела за мэту стварэнне незалежнай дзяржавы. І тая ідэя з'яднала ўсіх, нават палітычных апанентаў. Была арганізавана палітычная сіла, якая тую ідэю трымала і была настолькі моцнай, што яна была ў стане арганізаваць дзяржаўнае кіраўніцтва на акупаванай тэрыторыі.

Адзначыў:

— Чаму ўжо больш за 20 гадоў змагаемся супраць таго паганага рэжыму, зараз маючы значна большыя сілы? Таму што мы ёсць і засталіся адны. Гэтая хваля [аднаўлянне незалежнасці і дэмакратызацыі краін у Цэнтральна-Усходняй Еўропе пасля распаду Савецкага Саюза — М. Х.] адышла. Усе краіны вакол нас, нават Украіна, будуюць сваю незалежнасць на новай аснове. Мы трапілі ў такую сітуацыю, што найбольш можам разлічваць толькі на свае сілы. Няхай сілай і прыкладам будуць нашы героі 1918 года і тыя, хто ў 1991 годзе змагаліся за сваю бацькаўшчыну і незалежнасць.

Падкрэсліў:

— Калі ёсць нацыянальная ідэя, калі ўзняты бел-чырвона-белы сцяг, тады маюць значэнне і дэмакратыя, і правы чалавека, і эканоміка. Калі таго сцяга і ідэі няма, усё астатняе — другаснае. Калі не будзе змагання за нашу культуру, мову, то нічога не будзе (...). Сітуацыя ў Беларусі паказвае, што працягваецца вайна супраць беларускага народа, знішчанне нашай культуры. Таму павінна быць поўнае супрацоўніцтва паміж намі і разуменне. Яны не маюць перспектывы, ніякай ідэі. Губляюцца пры найменшых цяжкасцях, на грубай фізічнай сіле аснаваных. Няхай наш рух будзе аснаваны на ідэях і глыбокай веры.

Наталля Радзіна, галоўная рэдактар незалежнага партала «Хартыя-97», які дзейнічае на працягу некаторага часу ў выгнанні (якраз у Варшаве) заклікала:

— Я жадаю, каб сёння кожны тут паставіў сабе пытанне: што мы можам зрабіць тут для Беларусі. Гэта наш абавязак, каб адбываліся змены ў нашай краіне. Наш доўг не жыццё тут, але праца адсюль для Беларусі. Я веру, што Беларусь далучыцца да дэмакратычных еўрапейскіх краін, што неўзабаве мы зможам вярнуцца ў нашую родную краіну, каб жыць і працаваць там.

Зміцер Бародка прамовіў таксама на польскай мове (ранейшыя выступленні былі па-беларуску):

— У маёй краіне на працягу многіх гадоў ідзе вайна, вайна паміж дабром і злом, свабодай і рабствам. Гэта вайна ідзе прама пры ўсходняй мяжы Польшчы. У маёй краіне сапраўдных герояў саджаюць у турму. Алесь Бяляцкі, Мікалай Статкевіч, Зміцер Дашкевіч і іншыя сталі ахвярамі гэтай вайны, але яны не здаліся. За кратамі надалей змагаюцца за свабоду ў нашай краіне. Я ўпэўнены, што мы пераможам, таму што ў нас няма іншага выбару, і толькі ад нас залежыць, калі Беларусь стане вольнай краінай. Гэта мы павінны зрабіць усё, каб знікла з карты свету апошняя дыктатура ў Еўропе. Беларусі сёння неабходная салідарнасць і падтрымка. Разам, як нашы продкі, мусім знесці гэты мур. За вашу і нашу свабоду!

Людзі, якія сабраліся на шэсці, пад музыку люблінскага фолькавага ансамбля «Мяцеліца» пачаставаліся ў гэты марозны дзень смачнымі бульбянымі аладкамі са смятанай.

## Угодкі БНР на Узбярэжжы

Зараз, калі электронная тэхніка дазваляе кантактавацца з людзьмі без пасрэдніцтва паперы, пошты ды паштальёна, атрымаў я э-мейлам запрашэнне. Беларускае культурнае таварыства „Хатка” запрашала мяне на 95-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі. Праграма прадбачвала ўскладанне кветак на магілах Серафімы і Лукаша Дзекуць-Малеяў ды Козьмы Чурылы на гарнізонным могільніку ў Гданьску і пад каменем у гонар Янкі Купалы ў Гданьску-Аліве. Урачыстасці, якія адбыліся 24 сакавіка, завяршыліся сяброўскай вячэрай у гонар БНР у сядзібе БКТ „Хатка” ў Сопаце.



*Гістарычнае запрашэнне з 1929 г.*

У час сяброўскай вячэры Лена Глагоўская — старшыня БТК „Хатка” прыпомніла, апрача прычыны сустрэчы, гістарычныя ўжо запрашэнні беларусаў на святкаванні дзевятых і адзінаццатых угодкаў абвяшчэння Незалежнасці Беларусі.



*Пад каменем у гонар Янкі Купалы ў Гданьску-Аліве*

Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына” не забыла пра беларусаў Прымор’я і павіншавала нас з вялікім гістарычным святам — Днём Волі. Старшыня Лена Глагоўская прыпомніла прысутным змест Трэцяй Устаноўнай Граматы, у якой была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка і якая дала пачатак беларускай дзяржаўнасці ў XX стагоддзі.

Потым былі тосты, каб ідэя нашых продкаў здзейснілася ў вольнай і дэмакратычнай Беларусі, і віншаванні з нагоды заканчэння навукі беларускімі студэнтамі па праграме Каліноўскага і паступлення ў аспірантуру.

**Міхась КУПТЭЛЬ**

## Перабудуюць маставыя

Сёлета ў Гайнаўцы будуць адноўлены — ёсць такія планы — маставыя на 9 вуліцах, у тым ліку на вул. Ажэшкі, Лагоднай, Сонечнай, Пташынскага, Верпахоўскага і Жвіровай — за 3 250 тыс. зл.

Новае электраасвятленне атрымаюць вуліцы 3 Мая, Пілсудскага, Гурна, Простая, Верасовая, Бельская, Targowa, Беластоцкая і Спартыўная — за 300 тыс. зл.

Варта дадаць, што аднаўленне вуліц у Гайнаўцы ад пару гадоў з’яўляецца прыярытэтнай справай. **(яц)**

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Дух Хрыстовага Уваскрэсення

## — У нашай вёсцы людзі ніколі не дзяліліся, жылі згодна, як адна сям’я. Хаця я сама каталічка, то на праваслаўнае свята нават ходніка не выйшла б выбіваць...

Спадарыню Станіславу Піцэвіч, 66-гадовую жыхарку Крынак, найкарацей можна ахарактарызаваць як жыццярадасную жанчыну з чыста беларуска-еўрапейскім поглядам на свет. Як сама прызнаецца, найлепш адчувае сябе ў кампаніі добрай кніжкі і цікавых людзей. Адгадаваныя дзеці даўно адправіліся ў шырокі свет, таму ў крынскую бібліятэку заглядае яна даволі часта. А тут, вядома, не толькі кніжкі пазычаюць, але і інфармацыяй абменьваюцца. Такім чынам у перадвелікодны перыяд, праз пасрэдніцтва бібліятэчнай „пошты” спадарыня Станіслава запрасіла мяне ў госці. Ёй хацелася паўспамінаць і пераказаць наступным пакаленням гісторыі і песні сваёй маладосці, праведзенай у невялікай Слойцы, што ў Шудзялаўскай гміне. Убачыўшы на парозе хаты госцю, яна неадкладна спыніла перадсвяточнае парадкаванне, каб пачаць поўны тугі аповед.



*Старадаўняя касцельная брама-капліца ў Крынках*

Родная хата і вёска былі крыніцай самых добрых і разумных доследаў у жыцці спадарыні Станіславы. З перспектывы гэтых даўно мінулых хвілін пазірае яна ў сваю сучаснасць і будучыню. У Слойцы яе дзяцінства на некалькіх хутарах у дастатку пражывалі нашчадкі мясцовых шляхецкіх родаў, у тым ліку Кажухоўскіх, Чаромхаў, Рэдасаў, Кундзічаў, Алізаровічаў, Малешаў, Уткаў. Толькі двое апошніх былі праваслаўнымі, астатнія належалі да каталіцкага прыхода ў Шудзялаве. Незалежна ад канфесійнай прыналежнасці ўсе яны гаварылі па-беларуску.

— У нашай вёсцы людзі ніколі не дзяліліся, — тлумачыць мая субяседніца, — жылі згодна, як адна сям’я. Хаця я сама каталічка, то на праваслаўнае свята нават ходніка не выйшла б выбіваць. Адкуль помню, бацькі трымалі блізкія стасункі з сям’ёй Малешаў. Мой старэйшы брат нават хрысціў іх сына Юрку ў самагрудскай царкве. Тады ніхто не бачыў у гэтым ніякай недарэчнасці. Мы хадзілі да іх на праваслаўныя, а яны да нас на каталіцкія святы. Калі вясковыя хаты наведваў абраз Чэнстахоўскай Божай Маці, да супольных малітваў далучаліся і праваслаўныя. Аднолькава строга ставіліся і да Вялікага посту. Страшна тады пасціліся, — успамінае спадарыня Станіслава, — жылі, у асноўным, квасам і бульбай з лупінамі. Потым я хацела перанесці гэта ў сваю хату, але не атрымалася.

Незвычайным быў таксама тадышні велікодны стол. У бацькоўскай хаце маладой Стасі ўгінаўся ён пад напорам кумпякоў — печанай свініны з косцю, начыненай салам, крывяной кашанкі, сальцісонаў. Быў і халадзец звараны са свінскай галавы. Засоленае мяса трымалі ў бочках. Тоўстае сала з далікатнай, мяккай шкуркай вылежвалася ў дубовых скрынях.

— Помню, бацькі павыязджаюць у Саколку на торг, а мы з братам Чэсем давай у свіронак шкурку абрэзваць. Потым хаваліся па кутах, бо мама моцна перажывала, што сала ялчэе. Ой, з’есці цяпер такой смакаты! На свята выпякаліся таксама дражджовыя і пясочныя пірагі. Гэтыя апошнія мама начыняла мармеладам, купленым у агромнейшых кавалках на сакольскім кірмашы, упрыгожвала іх тонкай, пясочнай клетачкай. Такія пірагі лічыліся тады кулінарнай навінкай. Вельмі мы імі заядаліся. Смакавалі таксама маміны аранжада і падпівак. Святочны сняданак спажывалі зараз пасля вяртання з касцёла, дзе ў шэсць гадзін раніцы служылася святочная рэзурэкцыя. Пачыналі з малітвы і чытання фрагмента Святога Пісання. Потым дзяліліся асвянцоным кошычкам. Тады быў ён даволі вялікі і багаты. Мама клала там шэсць яеккрашанак, смакавітую каўбасу-пальцоўку, сушаную ў кошыку павешаным над плітой, кусок мяса, хлеба, пірага і соль. Пасля строгага посту так елі гэтыя яйкі, што чуць не давіліся. Не то што цяпер, сядуць за стол і есці ахвоты няма, бо гэта ўжо з’еў, чымсьці другім таксама толькі што пераеўся. Сёння „вяльканац” адбываецца ў кожны посны дзень, — з сумам дадае мая субяседніца.

Калісь на першы дзень святаў гасцей не запрашалі. Паяўляліся яны ў панядзелак. Бацька спадарыні Станіславы ставіў тады адну бутэльку гарэлкі. Гэтага хапала, каб добра пасядзець, паразмаўляць, пасмяяцца. Упівацца традыцыі не было, затое без спеваў не можна было абысціся. Мама спадарыні Стасі — Браніслава славілася выдатным голасам і багатым рэпертуарам народных песень.

— Калі на маёвым набажэнстве пад каплічкай маліліся, то ў Шудзялаве было яе чуваць, — са смехам дадае спадарыня Станіслава.

За святочным сталом абавязваў рэпертуар з касцельных кніжачак. Ад моцных галасоў чатырох братоў спадарыні Стасі хата дрыжала. Адзін з іх, пражываючы на Шлёнску, наведваў родную хату толькі ў вялікае свята. Тады звык ён спяваць:

*Куда вецер хмуркі гоніць, куда хіліцься трава*
*Куда мае вочка взглянуць, ўсё чужая старана.*
*Выйдзь мамаша на край вёскі і паслушай галасэ*
*Чы не это сын твой плачэ, в чужой, дальной старане.*

Спявалі не толькі ў роднай хаце спадарыні Станіславы, але і ў цэлай вёсцы. Каманду дружных, праваслаўна-каталіцкіх валакальнікаў мама Браніслава заўсёды шчодра надзяляла яйкамі, мясам і пірагамі.

Калі мая субяседніца была малой дзяўчынкай, яе хросны бацька запрашаў: „Стася, забяжы заўтра па валачонна”.

— Мне заўсёды сорамна было стукаць у дзверы і гаварыць за чым я прыйшла, — працягвае ўспамін спадарыня Станіслава. — Хросны адчыняў тады хату і, стоячы на парозе, гаварыў з жонкай: „О, Тэрэска, Стася прыйшла.” — „А чаго яна прыйшла?” — „Па яйкі і пірага”. Вельмі добра было, калі да валачобнага дакладалі цукеркі. Атрымаўшы падарункі, дзеці збягаліся на вуліцы, каб пахваліцца, каторае больш яек атрымала.

Іх не толькі спажывалі, але і выкарыстоўвалі ў месца цацак у шматлікіх велікодных, дзіцячых гульнях.

— Ой як хацелася б хоць на хвіліну перанесціся ў часе, — са слязой у вачах гаворыць спадарыня Станіслава.

У 1968 годзе, выйшаўшы замуж, спадарыня Станіслава апынулася ў зусім другім сацыяльным крузе. Новае асяроддзе аказалася далёка не заўсёды спрыяльным добрасуседскім адносінам паміж людзьмі. Навучаная на бацькоўскім прыкладзе, да гэтай пары не можа зразумець людзей, якія не паважаюць адзін аднаго толькі з-за таго, што хтосьці ходзіць у касцёл, у царкву ці ў сінагогу.

— Людзі ж усе роўныя, — тлумачыць яна. — У мяне зяць яўрэй, вельмі добры чалавек і гэта самае галоўнае. Заўсёды помніць пра мяне, нават і сёння званіў. Ён жа бацька маіх любімых унукаў. У мяне сяброўкі праваслаўныя. Яны паказалі мне царкву, навучылі прыгожых песень. Ой як калісь мы спявалі. Нам, жывучым тут у мешаніне веравызнанняў, абавязкова трэба трымацца разам як Бог прыказаў.



Фота Іны ХОМІЧ

# На радзіме заўсёды лепей

Знаёмства з паэтам **Іванам Трафімавічам Дацкевічам** у мяне пачалося з тэлефоннай размовы.

Не з ім, а з неўязным у Беларусь Яўгенам Вапам, які, седзячы ў сваім Беластоку, пазваніў на мабільны і з характэрным яму захапленнем пачаў пра яго распытваць. Пра Дацкевіча я на той момант чуць не чула, дарэмнымі былі падказкі, што пра яго напісала мая родная газета „Брэсцкі кур'ер". Але галоўнае ўлавіла: Дацкевіч нарадзіўся на Беласточчыне і гэтым самым вельмі зацікавіў асобных беластоцкіх беларусаў.

Зацікавіў, не хаваю, і мяне, асабліва пасля вусный ухвальнай рэцэнзіі на яго творчасць іншага пісьменніка Алеся Паплаўскага.

Сур'ёзна пазнаёміліся мы неўзабаве, належным чынам гэтае знаёмства спланаваўшы. Івану Трафімавічу чамусьці шкада было мяне гнаць дзеля сустрэчы з сабой на Жабінкаўшчыну, і мы дамовіліся спаткацца на адной паэтычнай вечарыне ў Берасці, у якой ён абавязаўся ўзяць удзел. Там і расказаў пра беластоцкі кампанент сваёй біяграфіі.

## Прымакі

Род 75-гадовага паэта паходзіць з Жабінкаўшчыны, дзе ў вёсцы Сцяброва гадавалася маці, ды з Камянеччыны, адкуль паходзіў бацька. Аднак пазнаёміліся яны не на радзіме, а ажно ў далёкай Казані, куды іх абаіх прыгнала бежанства. Іван Трафімавіч родавай памяццю прыгадвае, што беларусаў у Расіі прымалі добра, кожная сям'я хацела бачыць іх у сваёй хаце. Гэта і нядзіўна — лішнія рукі нікому не зашкодзяць, тым больш што жылі там да прыходу бальшавікоў вельмі багата. Трафім Дацкевіч у Расію выехаў з сям'ёй — жонкай і дваімі дзецьмі. Аднак жонка захварэла ды памерла, і ён ажаніўся з Іванавай маці.

Як пачалася галота і беларусам дазволілі вярнуцца дадому, Дацкевічы пакарысталіся такой магчымасцю. На жаль, навечна застаўся ў Казані матчын бацька, які, пераказваюць, быў выдатным народным паэтам.

Толькі вось аказалася, што вяртацца няма куды. У Сцяброве згарэла родная хата маці, у Падомшы — хата бацькі. І маладая сям'я накіравалася на Беласточчыну, у вёску Сады каля Драгічына, дзе жыла цётка Трафіма Дацкевіча.

## І там нарадзіўся паэт

Жыць з цёткай доўга не давялося — бацька займеў сякія-такія грошы, купіў зямлю ды пабудаваў непадалёк ад Садаў хутар. Там сям'я абжылася як матэрыяльнымі выгодамі, так і бясцэнным скарбам — дзецьмі, якіх разам з двума старэйшымі бацькавымі дзецьмі ад першага шлюбу стала ажно сямёра.

Ды пажыць спакойна Дацкевічам давялося нядоўга. Другая сусветная вайна прынесла ў іх дом сваю трагедыю. Спачатку невялікую — старэйшага брата Віктара і сястру Насцю забралі ў Нямеччыну, адкуль яны ў канцы вайны вернуцца калі не здаровымі, то хаця б жывымі. Сапраўдная бяда прыйшла 4 сакавіка 1944 года, калі Трафіма Дацкевіча застрэлілі немцы. Па гаспадарчых справах ён пайшоў у лес, але фашысты западозрылі яго ў сувязі з партызанамі. Гэта быў час, калі гітлераўцы стала прайгравалі ў вайне і моцна помсцілі тым, хто трапляў пад руку. Цела Трафіма доўга не дазвалялі хаваць — яно так і ляжала, пакуль немцы не ўстанавілі невінаватасць селяніна.

## Вяртанне. Яшчэ адно вяртанне

Пасля вызвалення і ўручэння барскага падарунка Польшчы ад Сталіна ў выглядзе Беласточчыны, маці Івана, адгукнуўшыся на рэпатрыяцыйныя заклікі, наважылася вяртацца на родную Жабінкаўшчыну. Відаць, разважыла, што побач з крэўнымі сваякамі будзе прасцей выгадаваць дзяцей. Старэйшы сын Трафіма, праўда, застаўся ў Садах, ажаніўшыся і прыняўшы каталіцкую веру.

Але пераджыла ўдава свайго мужа толькі на 10 год. У 1954 годзе памерла, так і не паспеўшы вывесці ў людзі малодшых дзяцей. Найменшага Юзіка забралі ў дзіцячы дом яшчэ пры яе жыцці — яна ўжо моцна хварэла. Іван застаўся дома і, як цяпер прызнаецца, моцна зайздросціў малодшаму. Пасля смерці мамы ён некаторы час жыў пры адным з братоў, так закончыў сямігодку. Пасля ж у яго жыцці пачаўся іншы этап, з таго моманту, як ён трапіў у набор юнакоў, якіх вывозілі ў Расію. Марская вучэльня, праца, няўдалая жаніцьба, заўчасная смерць адзінай дачкі — гэта ўжо іншая гісторыя.

Скажам хіба, што на Жабінкаўшчыну Іван Трафімавіч вярнуўся незадоўга да распаду Саюза, тут і жыве дагэтуль.

## Усё гэта ёсць у вершах

Вершы Іван Дацкевіч піша з дзяцінства, але толькі на пенсіі выдаў першы, а за ім адразу і другі зборнікі. „Бутэлечкі ў лесе збіраў, пенсію ашчаджаў", — напаўжартам, напаўсур'ёзна кажа ён. Піша ў асноўным духоўныя вершы і на рускай мове. Але некаторымі творамі паэт засведчыў і добрае валоданне мовай сваёй зямлі. Вось, напрыклад, яго „Філасофскі камень", прысвечаны жабінкаўскаму паэту Васілю Сахарчуку.

*Каб філасофскі камень меў я ўласны,*
*Каб у руцэ яго, як Божы дар, трымаў —*
*Я праз яго б душы прамень нязгасны*
*На ўсіх людзей накіраваў.*
*Пад лазерам цудоўным гэтым новым*
*Паменела б і болю, і пакут:*
*Сляпы б празрэў, нямы знайшоў бы словы,*
*Зланцужаны пазбавіўся б ад пут.*
*А добраму, нарэшце, стала б бачнай*
*Яго душа ў кароне залатой.*
*І чалавек бы стаў Тварцу ўдзячны —*
*За сэнс жыцця, за вечны воблік свой.*
*І вельмі многім стала б зразумелым,*
*Чаму нас злыдні ў яму завялі*
*І распладзілі злых і ашалелых,*
*А добрых на пакуты аддалі.*
*Але спасцігнуць гэта ўсё няпроста:*
*Душу гняце страшэнны цяжар зла,*
*І ліпне да людзей хлусні кароста,*
*І засціць вочы шэрая імгла.*
*Таму й такая цяжкая дарога*
*Выводзіць нас да зорнага маста,*
*Што каменя таго няма ні ў кога —*
*Адна надзея толькі на Хрыста...*

Пасля прачытаных Іванам Дацкевічам вершаў мне адно захацелася ў яго, хто большую частку жыцця пражыў у Расіі, спытаць: „Іван Трафімавіч, а дзе лепш жыць?". І ён чыста па-быкаўску адказаў: „Жыць заўсёды лепш на радзіме. Гэта наша зямля", але тут жа дабавіў: „Праўда, у Расіі да творчага чалавека больш павагі".

А яшчэ сказаў, што вельмі хацеў бы пабываць на Беласточчыне. „Там бацькава магіла — невядома, ці хто доглядае яе". Кажуць, і хата, у якой нарадзіўся паэт, таксама захавалася.

Іна ХОМІЧ, Берасце



Мікалай ЛУК'ЯНЮК
(1934 – 2013)

## Вясна

Шуміць вецер над роднаю хатай,
Часам у коміне ён загудзе.
У агародзе вясной каля хаты
Сад вішнёвы тут зацвіце.
Ажываюць усе кветкі навесну,
Зелянее кругом уся трава.
Як прыгожа ўсё тут дарагое,
Як красуе ўся наша зямля.
Пойдзеш рана ў лес пахадзіць,
Каб птушынага спеву пачуць.
Лес шуміць да цябе, штось гаворыць,
Не магу я яго зразумець.
Там на дрэва пабегла вавёрка,
Зайка шэры кудысь паскакаў.
Канцэрт птушак ніяк не сціхае,
Льецца радасць і ў маіх грудзях.
У абед як назад я вярнуўся,
Зноў вавёрку я тую спаткаў.
Яна шышку трымала у лапках,
Бо абедаць ужо пачала.

## Думаў

Думаў Коля, думаў,
Што яму зрабіць:
Ці пісаць у „Ніву",
Ці пра ўсё забыці.
З „Нівай" я звязаўся
Больш саракагоддзя.
Знаюць мяне добра
Ў ніўскім асяроддзі.
Я пісаў, пісаць буду,
Няхай людзі знаюць,
Што тут на Падляшшы
Беларусы пражываюць.
У нас свая культура
І свой гонар маем.
Царква для нас маці,
Кожны аб тым знае.
А калі на ўсход
Мяне хтось выпраўляе,
Знай што ў галаве
Ён розуму не мае!
Тут мая айчына,
Тут я нарадзіўся.
Быў тады маленькі,
Як у царкве хрысціўся.
Калі ўжо ахрысцілі,
Трэба тое знаці,
Што я сваю веру
Буду шанаваці.

## Нарадзіўся

Я на ўсходняй сцяне нарадзіўся,
Тут пражыў маладыя гады.
З рэчкай Нарваю вельмі я зжыўся,
Калісь часта тут рыбу лавіў.
Як бывала ў чэрвені людзі
Выйдуць сена над рэчку касіць,
Ой, прыгожы наш кут даражэнькі
Тады кожнаму з нас заўжды быў.
Цяпер тутака ўсё пастарэла,
Не ўбачыш з касою касца.
Толькі рэчка старая ляніва
Так плыве, як калісьці плыла.
Пад ракою не косяць ужо сена,
Пустазелле там толькі расце,
Ды не ловяць на вудачку рыбы,
Бо прапала яна ў Нарве-рацэ.
Калі я ўжо тут нарадзіўся,
Тут пражыў маладыя гады,
Буду шчыра прасіці ў Бога,
Каб і тут у магілле пайсці.



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# „Зорка” запрашае Гайнаўку да супрацоўніцтва



Напэўна на настрой нашай сустрэчы падзейнічала тое, што мы трапілі ў добры клас. Ад пачатку да канца гімназісты з увагай і жывой інтэлігенцыяй у вачах слухалі расказы пра „Зорку”. Праўда, цяжка было іх прымусіць да размовы, нешта даведацца пра іх саміх.

— Мы толькі пачынаем, а пачаткі заўсёды такія нясмелыя, — кажа настаўніца Ганна Каліноўская.

Праз некалькі хвілін словы настаўніцы пацвердзіла файная, жывая сустрэча ў ліцэі (непланаваная!). У Гайнаўцы разам працуюць гімназія і ліцэй, і напэўна вялікае значэнне мае тое, што заняткі па беларускай мове вядуць тыя ж самыя настаўнікі. Праўду сказаўшы, тут пачынаецца сапраўдная прыгода з беларускай мовай, гісторыяй, песняй, абрадамі, святамі.

Напачатку трэба выраўняць узровень ведаў, а тыя, якія не вучыліся беларускай мове ў пачатковай школе, працуюць падвойна. У першым „ц” класе найбольш было выпускнікоў з гайнаўскай „двойкі”.

— Трэба сказаць, што ў класе няднае веданне мовы, — адзначае настаўніца. У доказ прадстаўляе нам Натальку Тарасюк, лаўрэатку прадметнага конкурсу па беларускай мове.

Спецыяльна пад наш прыезд у клас прынеслі газеткі з Сустрэч „Зоркі”, дзе вельмі плённа праявілі сябе вучаніцы іх школы: Магда Панасюк, Міхаліна Герасімюк, Пятро Аўксянцюк. На працягу 18 гадоў адсюль прыязджалі на Сустрэчы „Зоркі” здольныя і працавітыя дзяўчаткі і хлопцы. А некаторыя з іх, як Тамаш Саевіч, сталі вядомымі журналістамі. Наш Тамаш праславіўся як ваенны карэспандэнт у Іраку, а зараз ён пабывае ў Кітаі. Іншы наш выпускнік Тамаш Суліма — зорка фейсбука і старшыня Аб'яднання беларускіх журналістаў.

ЗОРКА,
фота Ганны Кандрацюк





фота Ганны КАНДРАЦЮК

*Вы – нашая надзея*, – словы папы Яна Паўла II, які заклікаў грамадства з пільнасцю і любоўю адукаваць і выхоўваць наступныя пакаленні, прыаздобілі ўрачыстае падвядзенне вынікаў прадметных конкурсаў для пачатковых школ, якое адбылося 19 сакавіка ў Беластоку. Аказваецца, з навукай на Падляшшы ўсё больш праблем. Як адзначыў куратар Ежы Кішкель, лаўрэаты прадметных конкурсаў – гэта толькі адзін працэнт усіх навучэнцаў. Тым больш прыемна, што бельская „тройка” апынулася на чацвёртым месцы сярод усіх школ у рэгіёне. У конкурсе па беларускай мове сёлета было аж 34 лаўрэатаў, з якіх роўна палову складалі дзеці з Комплексу школ імя Ярослава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім. Сваю прысутнасць відавочна заявілі таксама дзеці з праваслаўнай школы ў Беластоку, дзе было аж 6 лаўрэатаў.

– Упершыню да конкурсу не прыступілі Нарва і Аўгустова, – сказала старшыня конкурснай камісіі Мірослава Маркевіч, – а так усе заявілі ўдзельніцтва. Праўда, некаторыя з іх не перайшлі на ваяводскі этап. Але тут найважнае іх удзельніцтва...

Ці конкурс мяняе падыход дзяцей да беларускай мовы?

– Цяпер я больш люблю граматыку і крыху лепш чытаю, – сказаў нам Адам Сцепанюк з бельскай „тройкі”.

Адаму, як і яго класным сяброўкам, дапамагалі не толькі настаўніцы...

– Увечары мы сядалі з мамай і яна дакладна правярала мае веды, – прызнаўся нам Адам.

Нашых лаўрэатаў і настаўнікаў віншуем з вялікім поспехам! Неўзабаве ў „Зорцы” апублікуем пра вас вялікі рэпартаж з мерапрыемства.

ЗОРКА

# Загадка (№ 14)

Разгадайце загадку, адказы дашліце ў „Зорку” да 15 красавіка, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Брат брата гоніць і ніколі не дагоніць?!**

Адказ на загадку № 10-13: Бусел. Узнагароды – „Смяшынкі” Віктара Шведа – выйгралі **Магдалена Ваўранюк** з Бельска-Падляшскага, **Габрыся Красько** з Арэшкава і **Магда Пташынская** з Нараўкі. Віншуем!

# Як атрымалі мы нядзелю?

*(народная легенда)*

У гэтай легендзе ёсць трапная прыкмета на тэму божых дароў. Паводле беларусаў, дар — гэта цудам ацалелая перліна; каштоўнасць, якая перайшла смяртэльныя выпрабаванні, і ацалела дзякуючы добрым людзям.

Ехаў у сераду праз лес на кірмаш адзін дзядзька са Скупава ў Гайнаўку. Аж бачыць — дзяўчына ў белай сукенцы бяжыць і просіць:

— Добры чалавек, падвязі мяне!

— Сядай.

Яна села.

Едуць яны, едуць ажно бачаць: здалёк бягуць два белыя сабакі. Дзяўчына як угледзела сабак, схавалася пад лаўку на возе, прыкрылася сенам і папрасіла:

— Не кажы ім, добры чалавек, што мяне вязеш, заядуць яны мяне.

Сабакі дагналі воз і пытаюць:

— А ці не бегла сюдой дзяўчына ў белым?

— Не бачыў, міленькія, не прыкмеціў!

Яны яго абмінулі і пабеглі на сухі лес. Тады дзяўчына ўстала і кажа:

— Добра, што ты ім не сказаў пра маю хованку, яны мяне разарвалі б. Вы людзі таксама засумавалі б. У вас ніколі ўжо не было б нядзелі, толькі адны будні.

Пасля гэтых слоў яна саскочыла з воза і растала ў паветры. ЗОРКА

№ 14 [07-04-2013]

# Дэкламатарскія спаборніцтвы


Фота Улі Шубзды

Адбыліся ўжо апошнія раённыя элімінацыі конкурсу „Роднае слова”. У панядзелак 25 сакавіка дзеці з Беластоцкага раёна змагаліся за магчымасць выступіць на цэнтральным этапе дэкламатарскага конкурсу. Дашкольнікі, якія вывучаюць беларускую мову ў Беластоку, Міхалове, Гарадку, Залуках, Бабіках ці Рыбалах, удзельнічалі ў конкурсе, які адбыўся ў сядзібе ГП БГКТ. Гледзячы на тварыкі дзяцей было відаць, што такія паэтычныя спаборніцтвы ім падабаюцца. Кожны мог даведацца аб сваіх дэкламатарскіх, а нават акцёрскіх здольнасцях. Варта згадаць, што дзецям не толькі трэба было вывучыць тэкст, навучыцца правільнага вымаўлення, але таксама мімікай і жэстамі аддаць настрой твора. Вучням сапраўды гэта ўдавалася. Гледачам напэўна блізкімі сталі ўсе праблемы і радасці герояў вершаў. Публіка мела магчымаць пазнаць прычыны абалелай ножкі сараканожкі, праблемы вожыка і яшчэ шмат цікавых гісторый, якія скрываліся між радкамі дэкламаваных вершаў.


Фота Улі Шубзды

Відна было, што дашкольнікі добра вывучылі свае вершы і старанна падабралі вопратку. Хлопцы апрануліся ў элегантныя кашулі, а дзяўчынкі — у каляровыя сукенкі. Былі і такія асобы, якія прыйшлі ў строях з народнымі беларускімі арнаментамі. Сярод іх — Марыся з пачатковай школы імя Кірылы і Мяфодзія з Беластока. Гэтая дзяўчынка ў вопратцы з чырвонымі ўзорамі на белай кашулі, здаецца, даведалася, што крыецца пад загалоўкам „Роднае слова”. Марыся ўжо другі раз прымае ўдзел у конкурсе і, каб падбадзёрыцца, прыйшла з мамай і бабуляй.

— Марыся, калі толькі дастала верш ад настаўніцы, пачала яго вывучаць. Яна проста любіць вершы, любіць выступленні, — кажа Анна Савіцкая, маці Марысі. — Акрамя таго беларуская мова — гэта яе самы любімы прадмет.

Магчыма не кожны з прысутных так сама хваляваўся перад выступам, аднак дзеці прызнаваліся, што мелі за сабою сотні рэпетыцый, якія дапамагалі так вывучыць верш, каб без ніякіх праблемаў выступіць на сцэне.

У канцы кожны, хто за штосьці змагаецца, хоча перамагчы. У гэтым выпадку мэтай быў выступ на цэнтральным этапе конкурсу. Віншуем усіх, якія перайшлі на раённыя этапы і жадаем поспехаў у час фінальнага конкурсу, які ўжо 10 красавіка.

**Уршуля ШУБЗДА**

## Вершы Віктара Шведа

### Скарга першакласніка

Маме скардзіцца Мікола:
— Не пайду ўжо больш у школу.
— А чаму? — не разумею.
— Бо чытаць яшчэ не ўмею.

А настаўніца ліхая
Размаўляць не дазваляе
Паўтарае, што я быццам,
Не хачу зусім вучыцца.

### Калі расце тата?

— Ці гэта праўда, мілы тата, —
Запытаў сыночак Фома, —
Што ты чамусьці так заўзята
Расцеш выключна толькі дома?

— Чаму так думаеш, каханы?
— Чуў, як сказала мама цёці,
Калі была ў нас сёння рана,
Што не расцеш ты на рабоце.

# Беларускі дзень у Белавежы

15 сакавіка ў Школьна-дашкольным комплексе ў Белавежы адбыўся Беларускі дзень. Ідэю такога мерапрыемства прапанавала настаўніца беларускай мовы Эва Вашчынская, якая занялася таксама яго арганізацыяй. З маленькай групкай васьмі гімназістаў – вучняў беларускай мовы, давялося падрыхтаваць цікавую ўрачыстасць.

Гэтага дня школьны хол упрыгожвалі васількі, зробленыя з паперы – цёмна-сінія, чырвона-белыя ды зялёна-чырвоныя. Яны ўводзілі веснавую атмасферу. На сцяне віселі гербы – той сучасны афіцыйны ды гістарычная Пагоня, каб падкрэсліць апалітычны характар мерапрыемства.



Ужо пасля званка на першы перапынак прагучала песенька „Захварэў мой коцік” – спецыяльна для самых маладых школьнікаў. Пазней прагучалі яшчэ песні „Госці”, „Я нарадзіўся тут”. Урачыстыя святкаванні Беларускага дня пачаліся ў час чацвёртага ўрока. Дзяўчаты ў беларускіх сарочках прывіталі гледачоў на беларускай і польскай мовах. На пачатак мультымедыйная прэзентацыя пазнаёміла ўсіх з беларускімі дзяржаўнымі сімваламі – афіцыйнымі ды гістарычнымі – сцягам, гербам ды гімнам. Паказваліся таксама фотаздымкі з Беларусі, якія паказвалі Гродна, Мінск, Пружаны, Шарашова і Віцебск. Далей вучаніцы дэкламавалі вершы, між іншым „Спадчыну” Якуба Коласа, „Слуцкія ткачыхі” Максіма Багдановіча ці „Не з тымі пайшоў” Уладзіміра Някляева. Ілюстрацыяй да паэзіі былі беларускія песні.

У час доўгага перапынку ўсе ахвотныя мелі магчымасць паспрабаваць беларускую ежу – цёмны хлеб з тлушчам, салёныя агуркі, пірог ды квас. Асабліва самыя малодшыя школьнікі рассмакаваліся ў гэтых прысмаках. Цягам цэлага школьнага дня на галоўным калідоры знаходзіўся беларускі куток, дзе прэзентаваліся беларускія кніжкі, музычныя выданні ды настольныя гульні, якія пазычыў нам Усеагульны ўніверсітэт у Тэрэмісках. Стол аздаблялі традыцыйныя ручнікі з прыгожай вышыўкай. Самым прыемным для мяне аказалася тое, што становіча адгукнуліся бацькі ахвотныя дапамагаць у будучыні пры арганізацыі падобных урачыстасцей.

**Тэкст і фота Эвы ВАШЧЫНСКАЙ**

# Польска-беларуская № 14 крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 10:**

Ток, сабака, хамяк, дарога, конік, жук, акно. Том, вежа, сад, гамак, бяроза, закон, гімн, ганак.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Патрыцыя Бядрыцкая, Наталля Бірыцкая, Рафал Новік, Аня Пянькоўская, Наталля Марчук, Эля Харкевіч** з Нараўкі, **Магдалена Хвашчэўская, Магдалена Ваўранюк** з Бельска-Падляшскага, **Якуб Цішук, Наталля Харужая** з Беластока. Віншуем!



Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Алімпіяда па беларускай мове — прэстыж і практычныя карысці

Перамога ў Алімпіядзе па беларускай мове — гэта індывідуальны поспех ліцэіста і поспех школы, у якой ён вучыцца, бо дзякуючы лаўрэатам, а нават фіналістам прадметных алімпіяд і іншым поспехам, школы перамагаюць у шматлікіх рэйтынгах і становяцца прэстыжнымі адукацыйнымі ўстановамі ў сваіх гарадах. Аднак, калі вучань здабудзе званне лаўрэата, гэта перш за ўсё індывідуальны прэстыж і пазаконкурсны пропуск на многія прэстыжныя спецыяльнасці ў Варшаўскім універсітэце, якога Кафедра беларусістыкі з'яўляецца арганізатарам беларускай алімпіяды, і ў многіх іншых вышэйшых навучальных установах, калі выпускнікі звышгімназічных школ яшчэ справяцца з мінімальнай колькасцю матуральных экзаменаў.



Вусная частка алімпіяды праходзіла перад камісіяй, у якой працавалі ў Бельску-Падляшскім (справа) прафесар Аляксандр Баршчэўскі, прафесар Мікола Хаўстовіч, асістэнт Вольга Трацяк і настаўніца беларускай мовы Валянціна Бабулевіч



Удзельнікі цэнтральных элімінацый Алімпіяды па беларускай мове

Аб гэтым ведаюць вучні Бельскага і Гайнаўскага белліцэяў і ліцэісты, што вучацца беларускай мове ў III Агульнаадукацыйным ліцэі ў Беластоку. Ліцэісты, якія ў школьных элімінацыях алімпіяды набіраюць найбольш балаў, пасля змагаюцца ў Гайнаўцы на раённых і ў Бельску на цэнтральных элімінацыях. Сёлета да цэнтральных элімінацый Алімпіяды па беларускай мове, якія 21 сакавіка адбыліся ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім, дайшлі 16 вучняў — 8 з Гайнаўкі, 5 з Бельска Падляшскага і 3 з Беластока.

— Я думаю, што галоўны козыр Алімпіяды па беларускай мове, гэта магчымасць зацікавіць вучняў беларускай мовай і літаратурай. Канешне, перамога ў алімпіядзе гэта прэстыж вучням і канкрэтныя прывілеі, а таксама прэстыж школе, у якой яны вучацца, — сказаў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

Вядучай тэмай XIX выпуску Алімпіяды па беларускай мове было жыццё і творчасць Максіма Гарэцкага, 120 гадавіну з дня нараджэння якога адзначаем сёлета. Дзве прапановы да пісьмовых сачыненняў датычылі яго аповесці: 1) *Максім Гарэцкі і бальшавіцкая ўлада (паводле аповесці М. Гарэцкага «Дзве душы»)*; 2) *Вобразы беларускіх нацыянальных дзеячаў у аповесці Максіма Гарэцкага «Дзве душы»*.

— Арганізуючы алімпіяду нельга было абысціся без Максіма Гарэцкага, найважнейшага празаіка нашаніўскага перыяду, ахвяры сталінскіх рэпрэсій. Творчасць яго вельмі цікавая, але і яго біяграфія незвычайная і трагічная, як лёсы іншых беларускіх пісьменнікаў перыяду сталінскіх рэпрэсій. Гарэцкі паверыў савецкай прапагандзе, так як Браніслаў Тарашкевіч і іншыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, заангажаваўся ў беларускае адраджэнне і за гэта аддаў жыццё. Варта ведаць творчасць Гарэцкага, у якой ён апісваў вёску ў перыяд кастрычніцкай рэвалюцыі, ці ўдзел беларусаў у Першай сусветнай вайне і іх першапачатковае захапленне ідэямі рэвалюцыі, да якіх пасля расчараваліся. Вельмі цікавая яго філасофская аповесць «Дзве душы». А раман «Віленскія камунары» — няшчыры, напісаны, каб ратаваць сваё жыццё. Але ў такіх абставінах, у якіх ён апынуўся перад смерцю, мог гэта зрабіць і няма што абвінавачваць яго па гэтай прычыне, — сказаў старшыня галоўнага камітэта алімпіяды прафесар Аляксандр Баршчэўскі.

Сёлета 55-гадовы юбілей адзначае Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» і таму трэцяя прапанова да пісьмовых сачыненняў тычылася якраз «белавежцаў»: *Творчасць прадстаўнікоў Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» (на выбар)*. Аднак ніхто з ліцэістаў не рашыўся пісаць пра «белавежцаў» пэўна таму, што, рыхтуючыся да пісьмовай часткі алімпіяды, вучні перш за ўсё звяртаюць увагу на вядучую тэму.

— Калі б прапанова наконт «белавежцаў» была больш канкрэтнай, можа нехта рашыўся б пісаць па ёй, бо творчасць нашых пісьменнікаў вядомая нам, але пры так агульнай тэме камісія магла б мець заўвагі, што мы замала яе раскрылі, — сказала Ніна Ваўранюк з Беластока і дабавіла, што рыхтавалася да напісання сачынення па творчасці Максіма Гарэцкага.

Наогул удзельнікі алімпіяды наракалі, што аповесць «Дзве душы» чыталася імі цяжка па прычыне яе філасофскага характару.

— Проза Максіма Гарэцкага вартасная і цікавая, але нялёгкая вучням ва ўспрыманні, асабліва складаная яго аповесць «Дзве душы». Мы ў школе разглядаем апавяданні Максіма Гарэцкага і гаворым пра яго складаны лёс як прадстаўніка інтэлігенцыі, ахвяру сталінскіх рэпрэсій. Аповесць «Дзве душы» разглядалі толькі спецыяльна пад алімпіяду, — сказала настаўніца беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі Іаланта Грыгарук.

— Аповесць «Дзве душы» складаная з-за яе філасофскага і псіхалагічнага характару. Мы ў нашай школе толькі закранаем творчасць Максіма Гарэцкага, але згодна з новай праграмай можа ўжо будзем разглядаць больш яго прозы, — заявіла настаўніца беларускай мовы ў Бельскім белліцэі Анна Бжазоўская.

— Творчасць Максіма Гарэцкага складная для аналізу і таму мы не ведаем, ці добра напісалі сачыненне. Найбольш складаным аказаўся пераклад з польскай мовы на беларускую тэксту «Чорны квадрат на белым фоне...». Маглі мы зрабіць памылкі ў практыкаваннях па займенніках або дзеясловах, — сталі гаварыць белліцэісткі Паўліна Бошка, Кацярына Баўтрамюк і Мартына Сакалоўская.

— А я аповесць «Дзве душы» прачытала за адзін дзень і з вялікім захапленнем, — сказала неспадзявана гайнаўская белліцэістка Агата Антасюк, якая была добрай думкі наконт свайго вуснага выказвання.

Аднак з папярэдніх выпускаў алімпіяды вядома, што першыя ўражанні ліцэістаў не заўсёды супадалі з ацэнкай камісіі як наконт пісьмовых прац, так і адносна вусных выказванняў.

— У папярэдніх выпусках алімпіяды прыходзілася правяраць вельмі добрыя працы, якія сведчылі аб вялікіх ведах і ўмеласцях ліцэістаў, але здараліся таксама працы слабыя. Калі я правяраю сачыненні, звяртаю ўвагу на тое, як раскрытая тэма работы, на яе змест, гляджу на стылістычнае афармленне працы, — заявіў эксперт алімпіяды прафесар Мікола Хаўстовіч.

— Вучні ўжо звярталі ўвагу на цяжкі ім пераклад тэксту з польскай мовы на беларускую. Калі спраўдзім тэкст, акажацца, як вучні з ім справіліся, — сказала перад вуснай часткай асістэнт старшыні алімпіяды па праграмных справах Вольга Трацяк.

Вучням трэба было выбраць тры тэмы з ліку 64 прапанаваных да вусных адказаў і яшчэ да цэнтральных элімінацый падрыхтавацца да размовы па іх. Прадстаўнікі камісіі выбіралі адну з тэм да расказу, але таксама ставілі дадатковыя пытанні. Прапанаваныя да вуснай размовы тэмы тычыліся перш за ўсё беларускай літаратуры розных перыядаў, у гэтым ліку творчасці «белавежцаў». Вучні маглі таксама выказвацца наконт гісторыі іх мясцовасці, помнікаў матэрыяльнай культуры беларусаў у Польшчы, расказваць пра беларускія народныя абрады і іх уздзеянне на нацыянальную культуру. Была таксама магчымасць гаварыць пра беларускія сродкі масавай інфармацыі і беларускія культурныя мерапрыемствы, пра ролю і значэнне беларускіх арганізацый у Польшчы, а таксама расказваць пра фальклор і гістарычнае мінулае Беласточчыны ў творчасці «белавежцаў». Ліцэісты найчасцей рашаліся на тэмы па беларускай літаратуры. Адны з іх выбіралі канкрэтных пісьменнікаў або нават канкрэтныя творы, іншыя рашаліся на тэмы, якія ахоплівалі шырэйшую партыю матэрыялу.

— Я выбрала больш агульныя тэмы па літаратуры, каб магчы больш свабодна выказвацца, — сказала Ніна Ваўранюк з Беластока.

— Вусныя выказванні былі цікавымі і на высокім узроўні, а вучні выбіралі разнародныя тэмы, перш за ўсё па беларускай літаратуры, — паінфармавала член камісіі, настаўніца беларускай мовы з бельскай «тройкі» Валянціна Бабулевіч.

— Званне фіналіста, гэта ўжо гарантаваная самая высокая колькасць балаў на матуральным экзамене па беларускай мове, а званне лаўрэата — гэта пропуск на выбраныя спецыяльнасці ў вышэйшых установах, — заявіла белліцэістка Агата Антасюк.

Арганізатары Алімпіяды па беларускай мове заяўляюць, што галоўнай яе мэтай з'яўляецца прапагандаванне сярод вучняў звышгімназічных школ ведаў па беларускай літаратуры, беларускай мове, культуры, беларускім фальклоры, а таксама звяртаюць увагу на польска-беларускія сувязі, перш за ўсё ў літаратуры і культуры. Пасля праверкі пісьмовых прац аказалася, што першае месца заняла Канстанцыя Дораш з Бельскага белліцэя, а на другім месцы апынулася Ніна Ваўранюк з Беластока. Трэцяе месца заняла Дар'я Шыманюк з Гайнаўскага белліцэя, чацвёртае — Вольга Мазурук з Беластока, а пятае — Мартына Сакалоўская з Гайнаўскага белліцэя. Астатнія 11 асоб сталі фіналістамі алімпіяды.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Вёскі
## бачаныя з дарогі


Крыж у Шашылах

Апошнім часам падарожжы свае я пачынаў не з адпраўнога беластоцкім аўтобусам мясцовага аўтавакзала, але з далейшых прыпынкаў у межах горада. Аднак трапілася мне і замiж на зручнейшыя прыпынкі заехаць і на аўтавакзал. Даўжэйшая непрысутнасць дазваляе заўважыць некаторыя змены, якія пацвярджаюць ход заўважальнага ў апошніх гадах трэнду. Менавіта, пусцеюць не толькі аўтобусныя прыпынкі ў тутэйшай глыбінцы, але гэты працэс наступае і на Беласток, гэтак жа як наступаючыя войскі набліжаюцца да нейкай крэпасці, а пасля штурмуюць і яе.

Цяперашні беластоцкі аўтавакзал не ідзе ў ніякае параўнанне з колішнім, што размяшчаўся яшчэ па вуліцы Юравецкай. У 1970-х гадах было там тлумна, народ спярша выстойваў хаатычнымі чэргамі да кас, а пасля не менш бязладным тлумам кідаўся на аўтобусы, не толькі напаўняючы, але і перапаўняючы іх салоны. Найчасцей была гэта вясковая моладзь, што ездзіла да бацькоў па харчовую запраўку, якая пазней, тая моладзь, учапіўшыся за гарадскія плацдармы, памяняла свае арыенціры, наогул забыўшыся пра ўсё тое, з чаго яна выйшла. Цяпер, зараз пасля сёмай гадзіны раніцы, перад адзінай адкрытай касай пуста. На ўсіх перонах было толькі чатыры асобы, з іх ліку тры каля стаянкі, з якой адпраўляюцца машыны ў Гайнаўку. Праўда, зараз пасля мяне з'явілася крыху больш асоб. Неўзабаве пад'ехаў аўтобус у Гарадок, забрацца ў які не было ніводнага ахвотнага. У „мой" аўтобус, што ў напрамку Бельска, Сямятыч і Седльцаў, забралася пяць ці шэсць пасажыраў; у бельскі аўтобус, што адпраўляўся паралельна, села толькі адна асоба.

Можа скласціся ўражанне, што публічны транспарт у нашым тутэйшым наваколлі становіцца непатрэбным і трымаецца ён, магчыма, дзякуючы актыўнасці нейкага транспартнага лобі, якое голасна пратэстуе супраць адмены тых камунікацый, дзе колькасць пасажыраў падае да непрыбытковага ўзроўню. Бо ж у дэкан'юнктурны час трэба змагацца за рарытэтныя працоўныя месцы, калі ў больш спрыяльных умовах можна было махнуць рукою на любую работу, бо напагатове былі іншыя. А то ж можа здарыцца так, што пасля адмены чыгуначных камунікацый прыйдзе чарга і на малалюдныя аўтобусныя.

З аўтобуса злажу ў Кнарыдах, адпраўляючыся ў бок Мокрага. На разводзе вуліцы паказалася жанчына, але пабачыўшы чужога мяне, адразу адступіла на свой панадворак. Сёння, у час свабоднага прадпрымальніцтва, калі энергічныя дзялкі атрымалі магчымасць весці разнародныя бізнесы, з'яўляюцца такія гульцы, якія вельмі ахвотныя заманіць простага чалавека ў нейкую хітрую пастку, каб абдурыць яго; тады трэба асцерагацца ўсялякіх незнаёмых, што валочацца па вёсках, магчыма шукаючы лёгкіх здабыч...

На адным з першых панадворкаў Мокрага кароўкі нетаропка падскубваюць сена з вялікіх цюкоў. Статак кароў камерны ды і іх настрой адпаведны — таксама камерны. Калісь, у дацюкавы час, гаспадар сам мусіў ключкай наскубці сваім кароўкам сена з агромнага „цюка", які спярша ўтоптваўся на старане стадолы, а пасля і сам злежваўся. Сена тое, або трасянку — сена перамешанае з саломай-аўсянкай — трэба было яшчэ занесці ў абору. А цяпер — адна выгада: кароўкі самі скубуць паводле сваіх патрэб...

У Дубяжыне першыя крокі кірую ў напрамку крамы, але на яе дзвярах — замок, хаця падыход да крамы акуратна замецены, і венічкі бярозавыя два стаяць для абмятання снегу. А гэта падказвае, што крама ў вёсцы яшчэ працуе. Пра гэта сведчыла і картка на дзвярах, на якой інфармацыя, што паштовае агенцтва, якога шыльда таксама вісіць, мае выхадныя па суботах і нядзелях, а да гэтага ўручную дапісаны яшчэ чацвяргі. Быў акурат чацвер...

Ідучага вуліцай мужчыну спытаў я пра сакрэты працы тамашняй крамы. А ён мне патлумачыў, што прадавец напрацоўвае столькі гадзін, што мусіць браць той дадатковы выхадны. І паінфармаваў ён мяне, што ў Дубяжыне яшчэ ёсць бар, але па вуліцы, паралельнай да галоўнай. Падаўся я туды.

У камерным бары быў толькі прадавец. Даведаўся я ад яго, што ў бар мала хто заходзіць, а вядзе ён тую ўстанову толькі дзеля таго, каб выпрацаваць пенсію. У вялікім будынку побач была калісь школа, а цяпер ён у прыватных руках. У будынках, дзе яшчэ раней была школа, у меншым цяпер ладзяцца рэпетыцыі мясцовага мастацкага калектыву, а ў большым — вясковыя мерапрыемствы, напрыклад, пахавальныя абеды.

— Хіба і нядаўна кагось хавалі, бо снег там акуратна адгорнуты? — спытаў я.

— Так.

— Колькі было пакойніку?

— Дзевяноста сем.



Паказальнік у Круглым

Развіталіся мы ўзаемнымі пажаданнямі доўгіх гадоў.

Падаўся я ў бок Круглага. За Дубяжынам стары лес, за Дыдулямі палоскі новых пасадак. На адной пашы пабачыў я студню з арыгінальнай лябёдкай для выцягвання вёдраў. У Круглым дзесяць нераскошных хат, з якіх прынамсі чатыры пазбаўленыя слядоў зімовай прысутнасці ў іх насельнікаў.

Побач скрыжавання дарогі з Круглага ў Чахі-Арлянскія з дарогай ад Москаўцаў у Краснае Сяло стаяць тры старэнькія драўляныя праваслаўныя крыжы. На найбольшым з іх абразок з выявай твару выходзячага ад Пілата Хрыста ў церневай кароне, якой стандарт атрымаў у мастацкім свеце названне „Ecce homo". Гэты стандарт характэрны лацінскаму выяўленчаму мастацтву, а прысутнасць яго на нашым візантыйскім крыжы сведчыць адно пра нашу тутэйшую шматкультурнасць, пра адкрытасць нашых шараговых прыхаджан на ўсялякія сусветныя мастацкія плыні. Калі б гэта заўважыў нейкі наш нешараговы іерарх, магчыма, што загадаў бы выдварыць той крыж з чужародным матывам, гэтак жа, як з тутэйшага царкоўнага фестывалю, з тутэйшых цэркваў былі выдвараны „некананічныя" царкоўныя спевы.

Яшчэ слоў пару наконт „Ecce homo". Не надта даўно гэтая тэма выклікала немалое зацікаўленне ў свеце, калі адна іспанская парафіяльная мастацкая самадзейніца рэстаўрыравала той абраз у сваім касцёле такім чынам, што атрымалася зусім іншая выява ад тае, якой стандарт быў выпрацаваны італьянскімі майстрамі жывапісу ў эпоху Рэнесансу. Сусветная публіка ўспрыняла яе працу як свайго роду кур'ёз. Аднак, цалкам магчыма, што Сесілія Хіменес, бо так называлася аўтарка апальнага абнаўлення, мела рацыю. Евангеллі, якія былі пісаны шмат дзесяцігоддзяў пасля Ушэсця, не падаюць дэталяў наконт выгляду Хрыста, затое ёсць там паведамленне, што апошнія будуць першымі (Мц, 20:16), што ў чаканым лепшым свеце, магчыма, Сесілія Хіменес стане перад Караваджыо, Веранезе ці Тыцыянам, што першастаяцелі будуць стаяць першымі ад канца...

Чахі-Арлянскія крыху большыя за Круглае. Шмат хат абноўленых, на некаторых аздобныя навугольнікі і надаконнікі, усе хаты традыцыйнага мясцовага дызайну. Пасярэдзіне вёскі крыж з арыгінальным надпісам, на якім малітва не толькі за людзей, але і за іх жывёлу.


Капліца ў Шашылах

Уся дарога, па якой я ішоў у Чахі-Арлянскія, была акуратна расчышчана ад снегу, хаця рух там невялікі, напрыклад, на адрэзку ад Кнарыд да Дубяжына на працягу гадзіны не мінуўся я з ніводным аўтамабілем. Кволы рух быў па дарозе між Круглым і Дубяжынам, а гэта, магчыма, таму, што тая дарога спалучае некаторыя вёскі з Бельскам, дзе чацвер лічыцца па традыцыі днём кірмашу. А ўжо за Чахамі, у напрамку Шашыл, на дарозе паміж гэтымі мясцовасцямі — зіма. Значыць, дарога там не расчышчаецца, быццам пралягала яна цераз свайго роду мяжу без памежнага руху. Бо і для гэтых вёсак іншыя грамадскія цэнтры, у тым ліку і гмінныя, а менавіта туды дарогі істотныя. Дарога між імі была зацягнута снегам, але з-пад яго прабіваўся крыху след трактара, які быў тудою праехаў да снегападу. Два з паловай кіламетра хады па снезе да костачак гэта выдатная зарадка чыстым кіслародам...

Недзе пасярэдзіне Шашыл, абапіраючыся на супрацьлеглых брамах, стаялі насупраць сябе жанчына і мужчына, абое ў больш-менш пенсіянерскім узросце. Пацікавіўся я, ці не выглядаюць яны аўтакрамы. Але не, аўтакрамы ўжо тут былі. Раніцай прыязджае машына з хлебам, а пазней з іншымі харчовымі таварамі. Прыязджаюць яны ў Шашылы амаль у кожны будзённы дзень. Найбліжэйшая сталая крама знаходзіцца ў адлеглым за два кіламетры Нурцы, насупраць *старцаў*, прытулак для састарэлых знаходзіцца ў будынку колішняй нурэцкай школы.

Абое мяе субяседнікі аказаліся адзінымі гаспадарамі ў вёсцы — у іх па дзве каровы. Мужчына малако возіць у Нурэц, у *бак*, жанчына малако ад сваіх кароў улетку прадае *вчасовічам*. А зімою малака мала, бо ж на той час каровы запускаюцца.

Не надта даўно назва вёскі Шашылы паявілася ў беластоцкіх мас-медыях, а то беручы пад увагу тое, што з гэтай вёскі паходзіць жонка новага лідара сялянскай партыі Януша Пехацінскага, які заадно стаў і віцэ-прэм'ерам. Спытаў я ў маіх суразмоўцаў, ці гэты вядомы палітык часта бывае ў іхняй вёсцы; адказалі яны мне, што прыблізна раз у год. Бывала, што і памагаў жончыным бацькам пры ўборцы сена. Але найчасцей то яна сама памагала, бо ў яго шмат абавязкаў у Варшаве. Ці ён сам мае гаспадарку, мае суразмоўцы не ведалі; даведацца пра гэта параілі яны мне зайсці ў хату ягоных цесцяў. Аднак я не заходзіў туды, бо, здаецца, пра Пехацінскіх не пішуць „каляровыя" газеты, з чаго заключыў я, што іх прыватныя справы не для публічнага ведама, нават у бацькоўскай вёсцы.

Крама ў Нурцы, калі я туды падышоў, была закрыта і ніякай інфармацыі пра гадзіны яе працы на ёй не было. А ў Дубне і зусім крамы няма, бо не хацелі яе жыхары. А дакладней — не ўсе жыхары яе не хацелі, толькі палова іх — тая прыгажэйшая. Жанчыны апасаліся, менавіта, што іхнія мужыкі знюхаюць там кантору абмену валют, дзе залатоўкі будуць мяняць на залацістае. Але ж не ўсюды так бывае, бо, як ужо можна было раней здагадацца, у Дубяжыне, напрыклад, адносіны да нашай залатоўкі патрыятычныя, народ любіць сваю валюту. А мо яна ў яго рарытэтам?


Жаночы калектыў „Адраджэнне” з Васілішак

■ Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Заняткі па-сакольску


Карціны мастакоў з Беларусі

Штомесячная сустрэча сябраў таварыства „Універсітэт трэцяга веку” была прысвечана постаці Чэслава Немэна. З гэтай нагоды ў Саколку прыехаў гурт з роднай вёскі артыста — з беларускіх Васілішак, які падрыхтаваў песні ў народных апрацоўках. Хто спадзяваўся сустрэчы, якая глядзела б на творчасць і самога Немэна з абодвух бакоў, польскага і беларускага, на жаль, расчараваўся.

Ідэя самога Універсітэта трэцяга веку здаецца быць вельмі цікавай. Вось старэйшыя жыхары Сакольшчыны, якія маюць больш свабоднага часу, могуць зрабіць перапынак у дагляданні ўнукаў і прыйсці на сустрэчу з людзьмі іх узросту, у якіх падобны жыццёвы вопыт і тыя ж хваробы (гэтыя займаюць шмат месца ў гутарках пажылых людзей). Хаця ўдзельнікі сустрэч ужо пажылыя, можна здзівіцца іх арганізацыйнымі здольнасцямі. Атмасфера была прыемнай, усе міла сябе віталі і клалі на лаўку пакрытай зялёным сукном заліковыя кніжкі. Відавочна сябры таварыства сур'ёзна падыходзілі да сваіх „заняткаў”, таму што адна з пенсіянерак прыйшла толькі па запіс у заліку, не маючы магчымасці застацца на мерапрыемстве па прычыне хваробы. Але ўсё ж такі не гэтая абавязковасць уразіла мяне як студэнтку, але форма „заліку”.

Самая сустрэча была прысвечана памяці Чэслава Немэна. Ягоныя песні, між іншым, „Дзіўны гэты свет”, „Нёман”, „Пад папугаямі” можна было паслухаць у выкананні калектыву з Васілішак. Калектыў пад назвай „Адраджэнне” існуе пры Саюзе палякаў на Беларусі і песні, якія прагучалі ў народных апрацоўках, былі спяваны па-польску. У час сустрэчы можна было паглядзець працы сябраў Таварыства польскіх мастакоў Беларусі. На падаконніках былі расстаўлены карціны, якія звярталіся да творчасці Чэслава Немэна ці да самой постаці артыста.

Сустрэча-залік пачалася з паўгадзіннага фільма, які быў зняты ў час экскурсіі па Сакольшчыне адной з пенсіянерак. Паводле яе слоў, „фільм паказвае прыгажосць і каштоўнасці нашага рэгіёна”. Ужо першы сюжэт перанёс гледачоў у сакольскі касцёл, дзе меў месца цуд. Цэлая экскурсія была насычана польскімі патрыятычнымі песнямі ў выкананні касцельных хароў. Настрой не спрыяў таму, каб з кім-небудзь паразмаўляць па-свойму ці знайсці ў гэтай сустрэчы нейкі беларускі кантэкст. Сам сябра Таварыства польскіх мастакоў Беларусі Рышард Талкевіч на пытанне ці можам паразмаўляць па-беларуску скрывіў твар, на якім малявалася таксама здзіўленне і адказаў, што ... не любіць гэтай мовы, але можа паразмаўляць па-руску і па-польску. У рэшце рэшт размаўляў на гэтай „дрэннай” мове. Калі ўжо здавалася, што з твару спадара Рышарда не зыдзе кіслая ўсмешка, з'явілася пенсіянерка ад фільма. У той момант Рышард павесялеў і пачаў хваліць пенсіянерку за тое, што выдатна ўдалося ёй падабраць музыку для фільма. На канец горка дадаў: „Калісь у Васілішках былі польскія школы, дзеці вучыліся польскай мове. А цяпер усё закрылі і людзі зноў вяртаюцца да гэтай простай мовы, ну, беларускай”.

Зусім інакш было ў выпадку жанчын з калектыву „Адраджэнне”. Тыя ўжо на пачатку нашай гутаркі адзначылі, што яны з Беларусі, таму размаўляюць па-беларуску. Жанчыны нават пачалі спяваць беларускую песню з Васілішак, якую ведалі яшчэ ад сваіх дзядоў. Аднак увесь час глядзелі ў бок іхняй менеджаркі Рэнаты Дземянчук з Саюза палякаў на Беларусі і, на жаль, спыніліся пры другой страфе.

У сустрэчы ўдзельнічала таксама Аліцыя Ткачук, якая з'яўляецца старшынёй кабарэ-групы „То і ово”. Кабарэ мае ў сваім рэпертуары пароды на лакальнай гаворцы. Спадарыня Аліцыя патлумачыла: „Але наша мова не мае нічога супольнага з беларускай! Я была на экскурсіі ў Гародні і там хацела дагаварыцца з імі па-нашаму, тады яны для мяне сказалі, каб ужо лепш гаварыць па-польску, бо яны не разбяруцца з гэтым. Для мяне так брыдка зрабілася”. Спадарыня Аліцыя спынілася і пасля кароткага маўчання дадала: „А ведаеш што, я як была настаўніцай у школе ў Старой Камёнцы, то забараняла дзецям так размаўляць. Такія былі часы — нельга было размаўляць пасвойму. І я таксама гэтых дзяцей вучыла польскай мове”.

Ці на Сакольшчыне штосьці памянялася ад часоў, калі заняткі вялі падобныя Аліцы Ткачук настаўніцы? Пенсіянеры з таварыства „Універсітэт трэцяга веку” навучаюцца „па старым стылі”. Гэтая сустрэча не памагала людзям, такім як Аліцыя Ткачук, зразумець „сваё”, а толькі паглыбляла падзелы і замацоўвала стэрэатыпы.




Добрыя спіртныя напоі заўсёды былі прызнакам добрага густу. Натуральна, што вытворцы якаснага алкаголю стараліся нават у назве адлюстраваць ледзьве не высакароднасць прадукцыі, звязаць яе са старажытнасцю, тым самым падкрэсліваючы, што якасць іх напояў праверана часам. Не дзіўна, што такая тэндэнцыя не абмінула і Беларусь, але не абышлося без дамарослага вычварэння. Так, ёсць у беларускіх крамах алкагольны напой «Бульбашъ», які пішацца, згодна з нормамі дарэформеннага рускага правапісу, з цвёрдым знакам на канцы. Мала таго, што гэтае пітво носіць назву ў выглядзе зневажальнай нацыянальнай мянушкі беларусаў, то яшчэ ў ёй выкарыстоўваецца пісьмо тых часоў, калі слова «Беларусь» было пад забаронай. Узгадаю, што 18 чэрвеня 1840 г. імператар Мікалай I выдаў указ аб забароне выкарыстання ў афіцыйных дакументах тэрмінаў «Белоруссия» і «Литва», «белорусская» і «литовская» губерні, і ўвядзенні замест іх назвы «Северо-Западный край».

Праўда, ёсць на алкагольным рынку Беларусі і іншыя прыклады. Так, неблагой назвай падаецца гарэлка «Сваяк», бутэлька якой аформлена з густам і добрым гумарам, прычым з большага па-беларуску. І ўжо зусім прывабна выглядае прадукцыя кампаніі «Беларускае пітво» («Белпі»), якая зрабіла стаўку ў замацаванні свайго брэнду на беларускай гісторыі.

Калі мы зойдзем на сайт кампаніі, што месціцца па адрасе http://drink.by, то ўбачым, што сапраўдным беларускім алкагольным напоем там лічыцца «Крамбамбуля» (настойка на мёдзе і спецыях). «Гэты высакаякасны натуральны прадукт пяцьсот гадоў назад карыстаўся вялізнай папулярнасцю ў жыхароў Вялікага Княства Літоўскага. Адроджаны па старадаўніх рэцэптах», — сцвярджаецца на галоўнай старонцы сайта на пятнаццаці мовах. Ну а калі цікаўнаму карыстальніку ўжо споўнілася 18 гадоў, ён зможа перайсці да агляду сайта і бліжэй пазнаёміцца з гістарычна-алкагольнай прадукцыяй «Белпі».

Сярод мноства рубрык сайта вартай увагі падаецца «Прадукцыя». Адтуль мы даведаемся, што акрамя «Крамбамбулі» ў розных варыяцыях кампанія вырабляе гарэлку «Генерал», звязваючы назву з імем Тадэвуша Касцюшкі і называючы яго героем, народжаным на беларускай зямлі.

Прыемна будзе азнаёміцца з такімі рубрыкамі, як «Гісторыя Беларусі» і «Аб кампаніі». У першай расповед пачынаецца з таго, што кампанія цесна звязвае сваю дзейнасць з гісторыяй Беларусі, суверэннай еўрапейскай дзяржавы. «Нашы дэвізы: „Праз адраджэнне нацыянальных традыцый да росквіту Беларусі!” і „Любі сваё!”», — кажуць вырабнікі настойкі і гарэлкі. На данай старонцы, акрамя невялікага экскурсу ў гісторыю Беларусі і інфармацыі аб велічы постаці Касцюшкі, месцяцца выявы старадаўніх будынкаў шэрагу беларускіх гарадоў.

Пра імкненне адраджаць беларускія нацыянальныя традыцыі і рэцэптуры з прымяненнем сучасных тэхналогій распавядаецца ў падрубрыцы «Філасофія кампаніі».

Нейкім працягам данай рубрыкі з'яўляецца старонка «Пытанні і адказы». Прычым «Белпі» размясціла там не толькі пытанні кшталту, дзе можна набыць вашу прадукцыю, але і даволі вострыя, напрыклад, чаму яе «Крамбамбулі» часта бываюць рознага колеру, «Вы што — сапсаваліся?».

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара



Служыў музе па імені Беларусь

# 120 гадоў з дня нараджэння Міколы Шчаглова-Куліковіча

Кампазітар і адмысловец музыкі Мікола Шчаглоў-Куліковіч нарадзіўся 4 красавіка 1893 г. на этнічна беларускай Смаленшчыне. Папраўдзе кажучы, дакладны год яго нараджэння невядомы — у крыніцах фігуруюць і 1896 і наступны год, але лепей прыгадаць такую асобу некалькі раз, не адкладаючы гэта.

Хлопчык рана застаўся сіратой, часта гасцяваў у цёткі — ігумені жаночага манастыра ў Цверы. Там ён пачаў спяваць у царкоўным хоры, які хутка заўважылі выкладчыкі Маскоўскай сінадальнай музычнай вучэльні, што шукалі ў правінцыі здольных музыкаў. Шчаглоў скончыў Маскоўскую кансерваторыю, працаваў на Украіне і Смаленшчыне. У 1936 г. прыехаў у Мінск. Там ён стаў адным з арганізатараў Опернага тэатра і дырыжорам яго сімфанічнага аркестра. Паралельна працаваў рэдактарам на беларускім радыё. Цікава, што ў 1940 г. да дэкады беларускага мастацтва ў Маскве Шчаглоў адмыслова напісаў кантату „Сталін”. Але тое, што адбывалася навокал, ніяк не адпавядала яго светагляду.

Да пачатку Другой сусветнай вайны Шчаглоў меў ужо досыць вялікі аўтарытэт і шырокую вядомасць. Калі прыйшла нямецкая акупацыя, ён застаўся ў Беларусі і працягваў сваю працу. У 1944 г. узначаліў музычны аддзел Беларускага культурнага згуртавання. На лібрэта Наталлі Арсенневай напісаў некалькі опер: лірычна-рамантычную „Лясное возера”, гістарычную „Усяслаў Чарадзей”, „Кацярына”, а таксама аперэту „У вырай”. Паводле музыкі Шчаглова ў Мінскім драматычным тэатры былі пастаўлены спектакль „Затонуты звон” паводле п'есы Герхарта Гаўптмана і рыхтаваўся „Кастусь Каліноўскі” Яўсцігнея Міровіча, які аднак забараніла нямецкая цэнзура.

Мікола Шчаглоў з'ехаў на Захад пры наступе савецкага войска, узяў там сабе прозвішча Куліковіч. Нейкі час знаходзіўся ў Нямеччыне ў лагеры для перамешчаных асоб. У эміграцыі ён таксама працягвае служыць сваёй музе. У 1946 г. арганізуе вандроўны беларускі тэатр эстрады, які аб'ехаў з канцэртамі ўсю Заходнюю Нямеччыну. У гэты час ён стварае музыку да Святой Літургіі. Жывучы ад 1950 г. стала ў ЗША, ён выдаў „Беларускія песенныя зборнікі” (тры выпускі), зборнікі „Калядоўшчыкі” і „Родныя матывы” з апрацоўкамі народных спеваў і ўласнымі песнямі, у ліку якіх „Беларусь, наша маці-Краіна” і „У гушчарах” на вершы Наталлі Арсенневай, „Пагоня” Максіма Багдановіча, вершы Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Янкі Купалы. Напісаў некалькі тэарэтычных прац, пакінуў мемуары „Мае ўспаміны”.

Памёр Мікола Шчаглоў-Куліковіч 31 сакавіка 1969 г. у Чыкага. Ягоны асабісты архіў быў перавезены і захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лондане.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# У гасцях у Гусаках

У суботу 9 сакавіка ў малой вёсцы Гусакі, што на Бельшчыне, адбылася сустрэча з ансамблем песні і музыкі „Заранiца” пад кіраўніцтвам Алены Букач і народным клубам аматараў фальклору „Магдаліна” пад кіраўніцтвам Святланы Самулевіч — абодва яны з вёскі Магдалін Кобрынскага раёна і з маладзёжным ансамблем традыцыйнага фальклору падляшскіх беларусаў „Жэмэрва” са Студзіводаў пад кіраўніцтвам Анны Фіёнік. Сустрэчу вёў Дарафей Фіёнік, а наладзіў яе солтыс вёскі Гусакі Андрэй Ліпато са сваёй жонкай Марыёляй і такімі ж працавітымі дочкамі Уршуляй і Касяй. Яны падрыхтавалі смачны пачастунак. Усім вельмі даспадобы была бульбяная кішка, якую спёк Люцыян Сасіноўскі. На сустрэчу прыйшлі жыхары вёскі і тыя, хто сямейна звязаны з ёю. Старэйшыя таксама паспявалі свае песні маладосці. Спадар Рыгор Міхальчык расказаў многа цікавага пра фальклор Гусакоў. Усім вельмі спадабаўся канцэрт запрошаных ансамбляў. Дарафей Фіёнік падараваў краязнаўча-культурны часопіс „Бельскі госцінэць”, у якім апісана гісторыя Гусаковай даліны, прадстаўлены здымкі і фалькклор вёскі, а таксама далучыў дыск з запісанымі песнямі з Гусакоў. Было і тэлебачанне пад кіраўніцтвам Юрыя Каліны.

Шкада, што зіма многім жыхарам, асабліва старэйшым, знясіленым хваробай не дазволіла прыйсці на мерапрыемства. Але ж нічога, нас усіх абаграваў сардэчны настрой, беларуская песня і ўсё гэта застанецца незабыўным успамінам. Усім падабалася сустрэча. Развіталіся мы ў цёплай атмасферы і з усмешкай. Да наступных сустрэч!

**Жэня МАРТЫНЮК**

# Падзяка

У суботу 23 сакавіка ў Трасцяніцкай царкве адпявалі памерлага 21 гэтага ж месяца Мікалая Лук'янюка з Бялок. На гэтай сумнай урачыстасці было многа сваякоў, аднавяскоўцаў і запрошаных гасцей. Сярод іх быў галоўны рэдактар нашай беларускай газеты „Нівы” спадар Яўген Вапа з Ганнай Кандрацюк-Свярубскай і Віталем Лубам. Пакойны Мікалай ад многіх-многіх гадоў быў звязаны з роднай газетай як паэт і карэспандэнт. Быў Ён добрым, разумным і жартаўлівым чалавекам. Відаць таму і сонейка прыглядалася прагна нам усім на могілках. І хоць нам сумна і балюча было хаваць пакойнага Мікалая, асабліва Яго сям'і, усё ж такі блізкія Пакойніка прасілі мяне напісаць тую падзяку прысутным на пахаванні, у тым ліку працаўнікам „Нівы”. Дзякуюць сардэчна жонка Соня, дачка Люся, сыны Ваня і Коля разам з дзецьмі.

Няхай Табе зямля будзе пухам, дарагі Мікалай з Бялок!

Г. Т.

1☞працяг

# Пад бел-чырвона-белымі сцягамі

родную вопратку. Турнір і конкурс — гэта добры спосаб на святкаванне Дня Незалежнасці, які мы ўспрымаем як нашае свята. Трэба ведаць нашую гісторыю і даражыць незалежнасцю Беларусі.

Белліцэісты з астатніх другіх класаў занялі другія раўнапраўныя месцы. На розных адмыслова ўпрыгожаных сталах можна было ўбачыць таксама смачныя бульбяныя аладкі, піражкі і іншыя ласункі традыцыйнай кухні.

— Мы з настаўнікамі разважалі, што можа неяк інакш, чым было ў папярэдніх гадах, адзначыць Дзень Незалежнасці. Аднак дайшлі да вываду, што гэта толькі мы, настаўнікі, глядзім на той самы спосаб святкавання, а вучні толькі па адным разе прымаюць удзел у святочным турніры, рыхтуюць нашыя нацыянальныя стравы, а на сустрэчы з цікавымі людзьмі мы стараемся запрашаць штораз то новыя асобы. Вельмі важна, каб вучні ў гэты святочны дзень рабілі тое, што ім падабаецца, добра гулялі, бо можа так святкаванне Дня Волі застанецца ім у памяці як найдаўжэй, — сказаў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

У гэтым годзе вучні трэціх класаў спаткаліся з рэжысёрам і журналістам Юрым Калінам з Беластока, які запрэзентаваў фрагменты сваіх фільмаў і расказваў аб працы журналіста і рэжысёра. Белліцэісты былі цікавымі гэтай працы і звярталіся да госця з пытаннямі. Асобы, якія паставілі самыя цікавыя пытанні, атрымалі кружэлкі з мнагакратна ўзнагароджаным фільмам Юрыя Каліны „Архімандрыт”. Вучні сустрэліся таксама з журналістам і гісторыкам Уладзімірам Хільмановічам з Гродна, які распавёў аб гісторыі Беларусі і пад гітару праспяваў беларускія песні, што вельмі спадабалася белліцэістам. Апякун Клуба польска-беларускіх спраў, які быў суарганізатарам спатканняў з цікавымі людзьмі, настаўнік Уладзімір Вавульскі паведаміў, што на ўроках гісторыі таксама крыху расказвае пра абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі. Вучням з першых класаў быў наладжаны адмысловы турнір, да якога прыступілі белліцэісты з чатырох класаў. Спявалі яны на ацэнку гімн сваёй школы „Люблю наш край, старонку гэту” і выступалі з цікавымі інсцэніроўкамі да беларускіх казак. Моладзь старалася зацікавіць сабраных сваімі акцёрскімі здольнасцямі, прэзентавалася ў спецыяльна падрыхтаванай на святкаванне незвычайнай вопратцы. Вучні паспрабавалі развесяліць публіку і гэта ім у многіх выпадках удавалася. Запрэзентавалі плакаты „Беларусь у маіх вачах”, рабілі рэкламу сваіх класаў. Над галовамі моладзі лунаілі бел-чырвона-белыя сцягі.



Спартыўнае спаборніцтва ў рамках турніру паказала, што белліцэісты — добрыя спартсмены. Калі былі падведзены вынікі конкурсу, высветлілася, што перамог I „б” клас, другое месца заняў I „а” клас, на трэцім месцы апынуўся I „д” клас, а чацвёртае месца заняў I „ц” клас.

— Мы вельмі рады, што перамаглі ў турніры і падабаецца нам, што можам святкаваць у час такіх цікавых гульняў, — гаварылі Кінга Бадавец і Уршуля Ліпато — белліцэісткі з першага пераможнага класа.

Урачыстая, святочная лінейка 25 сакавіка была наладжана таксама ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Яраслава Касцыцэвіча ў Бельску-Падляшскім, у час якой вучні з I „ц” класа выступілі са слоўна-музычным мантажам і пазнаёмілі сабраных белгімназістаў з падзеямі 1918 года на беларускіх землях.

— Мы размаўляем пра абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі на ўроках беларускай мовы. Святкаванне Дня Незалежнасці рашыліся мы адзначыць асабліва ўрачыста, — сказала настаўніца беларускай мовы ў бельскай „тройцы” Валянціна Бабулевіч, адказная за арганізаванне школьнага святкавання. Дзень раней белліцэісты з Бельска-Падляшскага ездзілі на цэнтральнае святкаванне Дня Незалежнасці ў Беласток, а ў панядзелак бельскія белліцэісты і белгімназісты пабывалі на святкаванні Дня Волі ў Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах, якое наладзіў там Звяз беларускай моладзі. Вучні паглядзелі там фільм Міколы Ваўранюка „Беларусь і шлях да незалежнасці”, а з дакладам пра беларускі рух на Бельшчыне выступіў прафесар Алег Латышонак.

# Адгаданка

1. сялянская арганізацыя, „неад'емны кампанент савецкага сацыялістычнага грамадства”, 2. пахучае рэчыва са стручкоў ванілі, 3. „егіпецкая” опера Вердзі, 4. вежа пры мячэці, 5. алмаз, 6. кіславаты напой з пераброджанага малака, 7. пагаласка, якая вымаўляецца без удзелу галасавых звязак.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — сказ папы Францішка.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | | | | | | |
| | | | 2 | 3 | | | | 4 | 5 |
| | | | 6 | | 7 | | | | |
| | | | | | | | | | |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 9 нумара**

Конь, мера, мой, мы, рой, такт, хеты, Ціта, Эш.

Рашэнне: **Хто не трымае ката, той корміць мышэй**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Юстыне Іванюк** з Гайнаўкі і **Уладзіміру Ахрымюку** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# 07.04 — 13.04

**(22.03. — 20.04.)** Дбай аб сваю красу, добра пойдзе таксама з дыетай і трэніроўкай. Не сядзі ў хаце, набяры ахвоты на новыя выклікі. Найлепш не займайся справамі іншых, не давай ім парад. Добры час для прафесійнай актыўнасці. У аўторак магчымая грубасць акружэння і спрэчкі з чужымі. У пятніцу лепш не стой пад дрэвамі, рэкламнымі шчытамі, часовымі пабудовамі.

**(21.04. — 21.05.)** Маладзік Месяца (10.04.) настроіць цябе неабавязкова аптымістычна. Будзеш турбавацца здароўем, асабліва калі будзеш адчуваць слабасць і стому. Затое няблага з фінансамі — май толькі планы і энергічна іх рэалізуй; шанц на падпісанне карыснага кантракта ці падтрымку ад асобы, на якую ты не спадзяваўся.

**(22.05. — 22.06.)** 7-11.04. дробныя непаладкі. 6-9.04. можа паявіцца пачуццё, якое можа аказацца толькі (або аж!) вельмі жарсным (на пастаянныя сувязі не пойдзеш). Маеш шанц хораша пахудзець (асабліва народжаныя 4-8.06.). Старайся дзейнічаць падводле плану.

**(23.06. — 23.07.)** Зашмат цяпер не заробіш, дык могуць паявіцца спрэчкі за распусту або скупасць (да 15.04.). 9-11.04. драбяза можа цябе вывесці з раўнавагі; не вер людзям, якія хочуць цябе здамінаваць. Спадзявайся ў гэтым тыдні чагосьці незвычайнага ў тваім жыцці. Калі ў аўторак выкіпіць табе вада з чайніка, будзь асцярожны з вадой і паветрам (не купайся ў вадаёмах, не лятай на самалёце).

**(24.07. — 23.08.)** Дбай асабліва пра сваё сэрца. Да 15.04. ты знакаміты негацыятар. Паявяцца шанцы на заключэнне вельмі карыснай дамовы, хаця прыбыткаў прыйдзецца яшчэ пачакаць. Добрыя паездкі і справы для прыемнасці, добры час для зачацця дзіцяці. У аўторак не вер пустым абяцанням.

**(24.08. — 23.09.)** Многа энергіі. 8-12.04. не ўдасца зрэалізаваць усіх планаў; хаця тое што кепскае міне, пазбягай тых, у якіх ты ўжо расчараваўся. Пытанні твайго асабістага жыцця выйдуць уперад. Не душы ў сабе эмоцый. У панядзелак магчымыя апёкі. У пятніцу поспехі ў другога полу.

**(24.09. — 23.10.)** Да 9.04. дасканала дагаворышся з іншымі; будзеш аказваць на іх уплыў, пераканаеш да сваіх задум. Будзеш багаты на новыя ідэі. Пры маладзіку Месяца (10.04.) інакш глянеш на свайго партнёра; усё будзе залежаць ад цябе. 10-14.04. можаш адчуць стому; задбай аб сябе і свой настрой!

**(24.10. — 22.11.)** Настрой будзеш мець ненайлепшы. Не праваронь таго, што хтосьці ўздыхае за табою! Тое, што цябе нервавала на працы, перастане мець значэнне. Вазьмі справы ў свае рукі і пазмагайся за тое, што табе належыцца. Маеш шанцы на дробныя поспехі. У аўторак увесь час будзеш у цэнтры падзей. Добры час на пакупку аўтамабіля.

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш актыўны, нават узбуджаны; творча выкарыстай распіраючую цябе энергію. Добра складуцца твае адносіны з усімі супрацоўнікамі. 8-12.04. не дазваляй узлазіць сабе на галаву хатнім, бо можаш выбухнуць. 11-15.04. складанасці; варта мабілізавацца і справіцца з выклікамі. Можа паявіцца прапанова лёгкага і прыемнага заробку. 12.04. найістотныя справы могуць стаць у месцы, а менш важныя папхнеш уперад.

**(23.12. — 20.01.)** Да 9.04. Венера спрыяе ў здзяйсненні пачуццяў. Да 10.04. глядзі на тое, што ясі. 10.04. — добры час на ачышчаючую галадоўку. З 11 (да 15.04.) блізкія абвінавацяць цябе ў эгаізме; іхнія заўвагі цябе ўзлуюць! Бізнесменаў чакаюць непрыемныя сюрпрызы ад партнёраў. Запрагнеш змен. Памятай, што за малыя ўдачы таксама варта пазмагацца.

**(21.01. — 19.02.)** Да 10.04. паафармляй самыя важныя справы. 10-15.04. можаш быць расчараваны і знеахвочаны ды (непатрэбна) утурбаваны за будучыню. З 11 (да 15.04.) добра дагаворышся з людзьмі; шанцы наладзіць цікавае супрацоўніцтва.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш кемлівы, талковы, шустры. Добры час палячыць старыя нямогласці, асабліва натуральнымі метадамі. 7-11.04. можа штосьці пайсці не па-твойму, ды не паддавайся настрою! Можаш цяпер здабыць прыхільнікаў, якія стануць для цябе карыснай падпорай.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


Фота Якуба Маліцкага

■ Ганна КАНДРАЦЮК

# Лондан: уік-энд у дажджы і нарцысах

*(пачатак у № 13)*

Не люблю, калі хто з прыгожай акцёрскай усмешкай лезе між закусь і гарэлку, карацей кажучы, тых псеўдапрыяцеляў вядомых літаратараў, што нахабна пруцца ў тусоўку, каб толькі сагрэцца ў цяпле чужой славы. Мы з Дыянай ад пачатку планавалі трымацца тры крокі ззаду — насіць Мірыну сумку, дбаць пра яе паэтычныя крылы, дапільнаваць, каб тэрмінова прымала ўсе свае лякарствы. Словам, нашая *незаценкая* дэлегацыя выглядала як трэба — у нас была зорка і яе верная світа. Але, як кажуць, самыя дасканалыя праекты нараджаюцца не з волі чалавека. Нашыя планы і намеры таксама былі крышку пераблытаны, прытым з відавочнай карысцю для саміх целаахоўніц. Дапамагла тут радзімая метафізыка, якая не пакідала нас ні на крок пад дажджлівым брытанскім небам.

— А ведаеце, які сон прысніўся сёння Ганне? — замест *добры дзень* заявіла Міра Лукша, пераступіўшы ўніверсітэцкі парог. Трэба дадаць, што завіталі мы якраз на самае прэстыжнае аддзяленне славістыкі ў свеце. Нас прывітала прыгожая кампанія літаратуразнаўцаў, паэтаў, выдаўцоў, фатографаў і аніматараў. Усе яны размаўлялі на славянскіх мовах, мабыць таму тая доза нерацыянальнай інфармацыі — мова пра мой сон на новым месцы, які з ходу распавяла ўсім нашая паэтэса — трапіла на свой грунт і нават спадабалася. За гэта нас пасадзілі за асобны стол і пачаставалі вінцом, падрыхтаваным на заканчэнне сустрэчы.

* * *

Каб усё было ясна — 16 сакавіка 2013 года мы ўдзельнічалі ў канферэнцыі „Еўрапейскія паэтычныя дыялогі”, якую арганізавалі літаратаркі і выкладчыцы Анна Марыя Міцкевіч і Уршуля Магдаліна Хаванец са *School of Slavonic and East European Studies*, што ва *University College London (UCL)*. У час прэзентацыі ўстановы спадарыня Хаванец называла факты, якія прагучалі быццам сенсацыя. На сённяшні дзень, калі ідзе пра колькасць карыстальнікаў моў на „высіпах” — як кажуць пра Вялікабрытанію разам з Ірландыяй — палякі апынуліся на другім месцы. Гэтая масавасць аднак не вырашае праблем асіміляцыі. У другім пакаленні эміграны звычайна ўжо англамоўныя. Дзеянні і намаганні лонданскай палоніі ў карысць захавання тоеснасці жыва напаміналі нашыя беларуска-падляшскія турботы.

— На эміграцыі вельмі цяжка быць польскім паэтам, — кажа Анна Марыя Міцкевіч, — не хапае таго паветра, таго чагосць сапраўднага і жывога, каб у натхненні складаць вершы. У сваім выступленні належным чынам адзначыла ролю паэтычных вечароў, арганізаваных аб’яднаннем „PoEzja Londyn”. У выніку з’явілася ў друку анталогія „Piękni ludzie. Poeci mojej emigracji” пад рэдакцыяй Адама Сяменчыка. Анна Марыя Міцкевіч невыпадкова пачала сваю прэзентацыю з дэбютанцкага сярмяжна-сціплага зборніка, каб усвядоміць прысутным змены і сучасныя прыярытэты на кніжным рынку.

— Ніякае афармленне і тэхніка не заступяць таленту аўтара, — гаварыла яна. — Дзякуючы яму свет паэзіі вечна малады, нязменны і патрэбны чалавеку. Як прызнаная і шматразова ўзнагароджаная паэтка і эсэісткa, рэдактарка лонданскага часопіса „Pamiętnik Literacki”, заснавальніца часопіса „Wywrotowiec”, папулярызатарка польскай літратуры ў свеце, была аўтарытэтам, душой і пуцяводнай зоркай „Еўрапейскіх дыялогаў”.



Фота Ганны Кандрацюк

Удзельнікі паэтычных еўрапейскіх дыялогаў у School of Slavonic and East European Studies, што ва University College London (UCL)

Міра Лукша на ўсходах у факультэт славістыкі: „Сюдою ступаў прафесар Макмілін!”


Фота Міры Лукшы

Пад домам Марысі Ружанскай пры вуліцы гатэляў пад ільвамі — Гандзя і Дыяна

* * *

Праз нейкі час я шукала адпаведнага беларускага аналага для літаратурнага свету палоніі ў Лондане. І чамусьці найбольш падыходзіў тут праект „Дэбют”, які ад пятнаццаці гадоў вядзе рэдакцыя „Нівы”. І тут, і там усе могуць праявіць сябе ў літаратуры, у адвольных стылях, жанрах, манеры. Адкрытасць і талерантнасць для розных узроўняў спрыяе масавасці. Як гэта кажуць у нас — усе людзі патрэбныя. Таксама ў літаратурным працэсе патрэбныя графаманы і снобы, усякія энтузіясты і аўтары аднаго сезона, каб на іх фоне канчаткова засвяціліся зоркі. Або, як кажа наш літаратурны бацька Георгій Валкавыцкі, каб выраслі магутныя дубы.

Калі Міра Лукша прачытала свае вершы, у канферэнц-зале запанавала ціш, як у час шаманскай замовы. З падобнай увагай польскія англічане слухалі яе беларускія вершы, слушна прадчуваючы там крыніцы славянскасці. Спадабалася яшчэ адкрытасць паэткі, якая ўмела з кожным пагаварыць ды экспромтам перакласці на беларускую мову прапанаваныя ёй творы. Магчыма, дапамагла тут закладзеная ва ўніверсітэцкія муры творча-інтэлектуальная энергія. Лонданская славістыка, што адзначалі з гонарам яе працаўнікі, найбольшая ў свеце.

— Найбольш разбудаваная ў нас русістыка, — адзначала Анна Марыя Міцкевіч. У будынку працуе таксама беларусістыка, з якой шмат гадоў быў звязаны аўтар „Літаратуры ў халодным клімаце”, вядомы беларусіст, прафесар Арнольд Макмілін — шатландзец, які з праніклёнасцю і эмпатыяй нястомна даследуе беларускую літаратуру.

* * *

У гэтым месцы неабходна расказаць яшчэ сон, які сам па сабе нейк падзейнічаў на настрой семінара. У Лондане спыніліся мы на кватэры паэткі Анны Марыі Ружанскай пры вуліцы Shepherds Bush Road, у белым доме пад ільвамі.

Як прыкладныя славянкі, уся наша *незаценкая* тройца захацела запамятаць сон на новым месцы.

Ну і наснілася... Карацей кажучы, прысніўся мне сам Георгій Валкавыцкі. Ён, як месяц у поўні, сядзеў у цэнтры на чырвонай канапе ў лонданскім доме Анны Марыі і апавядаў анекдоты з жыцця багемы. Побач яго, па правым баку, прысеў Юліян Тувім, і калі прыйшла яго чарга ўзяць слова, пачаў успамінаць Янку Брыля. Сярод анірычнай літаратурнай тройцы, за застаўленым сталом, я пабачыла яшчэ... Веслава Казанэцкага, які чамусьці напамінаў тут Барыса Пастарнака...

— Запрашаем да нас, — паклікаў мяне жэстам Георгій Валкавыцкі. Паколькі ўся сітуацыя напамінала ўніверсітэцкі экзамен, я ў эмоцыях разбудзілася і ўжо да раніцы не магла заснуць... Каб стрымаць нейкую рацыянальную плынь у гэтым аповедзе, трэба дадаць, што ў Лондан мы паехалі з новым нумарам „Нівы”. Якраз на першай старонцы красаваўся Георгій Валкавыцкі. Яго партрэт запрэзентавала я адразу пасля таго, калі Міра Лукша распавяла мой сон.

— To było takie poetyckie wejście smoka, — падвёў нашу прэзентацыю адзін удзельнік, фанат культуры Далёкага Усходу, што, дарэчы, відаць простым вокам...

*(працяг будзе)*

ISSN 0546-1960